

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

5 ЧЭРВЕНЯ 1998 Г. № 23/3951 КОШТ 4 000 РУБ.







# Адаму, бацьку Максіма

Кажуць, што прырода, добра папрацаваўшы над вобразам генія, адпачывае ў ягоных нашчадках. З кожнага правіла павінны быць выключэнні, але сапраўды цяжка адразу прыгадаць геніяльнага сына геніяльнага бацькі. Мабыць, цяжка быць "звычайным" сынам выдатнай асобы. Ды, мабыць, не лягчэй і "звычайным" бацькам геніяльнага сына. Асабліва, калі бацька і сам не пазбаўлены таленту і пэўных амбіцыяў.

Адам Ягоравіч Багдановіч добра ўсведамляў, якою боскаю пячаткаю пазначаны ягоны сын Максім, і ставіўся да гэтага па-філасофску. Магчыма, без ягонага бацькоўскага клопату Максім не здолеў бы здзейсніць наканаванае. Максім Багдановіч мог бы, гаворачы пра сваё жыццё, паўтарыць вядомае выслоўе: "Я бачыў далей іншых, бо стаяў на плячах волатаў". А на ўвазе меліся б не толькі хрэстаматыйныя асобы бацькоў — заснавальнікаў беларускага руху, але і ягоны родны бацька — Адам Ягоравіч.

Доўгі час імя Максімавага бацькі было не тое каб забытае, але недастаткова ўшанаванае. Аб ім прыгадвалі толькі ў сувязі з Максімам, нібыта ўсе ягоныя заслугі перад Бацькаўшчынай зводзіліся да таго, што ён прычыніўся да нараджэння генія. Між тым, Адам Ягоравіч і сам быў асобаю неардынарнаю, надзвычайнаю. Ён шмат зрабіў для вывучэння фальклорна-этнаграфічнай спадчыны беларусаў. І быў не проста збіральнікам песень і паданняў — Адам Багдановіч быў ці не першым у нашым краі этнасацыёлагам. Уважліва пагартаўшы ягоныя запісы, знойдзеш высновы, актуальныя і па сённяшні дзень.

*(Працяг на стар. 2—3)*

## КОЛА ДЗЁН

***Вялікі педагог, знаўца дзіцячай душы Януш Корчак лічыў, што няварта падзяляць чалавецтва на дарослых і дзяцей — "проста ёсць людзі з большым ці меншым жыццёвым доседам". У гэтым сэнсе Правы дзіцяці — адзін з аспектаў Правоў чалавека. 1 чэрвеня свет адзначаў Міжнародны дзень абароны дзяцей. У розных краінах — па-рознаму. У Мінску ў гэты дзень было шэсце і мітынг пад лозунгам "Для маці ўсе дзеці роўныя, незалежна ад узросту", арганізаваны жаночым рухам "Адраджэнне Айчыны". Скасаваць прымусовае накіраванне выпускнікоў ВНУ ў Чарнобыльскую зону, даць дзецям магчымасць вучыцца на роднай мове, не перашкаджаць дабрачынным арганізацыям, якія дбаюць аб фізічным і псіхічным здароўі будучага нацыі, — такія патрабаванні гучалі на мітынгу. Людзей жа было няшмат — каля 150 чалавек. Беларусь адзначыла Міжнародны дзень абароны дзяцей...***

### *АЛЬТЭРНАТЫВА ТЫДНЯ*

У чацвер на плошчы Якуба Коласа ў Мінску моладзь ладзіла тэатралізаваную акцыю супраць абавязковага прызыву ў армію. Кульмінацыяй акцыі стаў рок-канцэрт. Моладзь не супраць таго, каб паслужыць Айчыне, але павінна быць права выбару: служыць са зброяй у руках альбо працаваць на будоўлях, у бальніцах, дзіцячых садках. Так, як гэта прынята, скажам, у Германіі. Патрабаванне альтэрнатыўнай службы становіцца ўсё больш актуальным у свеце магчымага аб'яднання пад адзіным камандаваннем Узброеных Сіл РБ і РФ і перспектывы для беларускіх хлопцаў "абараняць знешнія межы саюза РБ і РФ па ўсім перыметры".

### *ПРЫСУД ТЫДНЯ*

ЖРЭА Партызанскага раёна Мінска — гаспадар памяшкання, дзе кватаруе Таварыства беларускай мовы, мае сур'ёзны намер пазбавіцца "кватаранта". Гаспадарчы абласны суд ужо разглядаў зыск з ТБМ 840798761 рубля, скасаванні дамовы аб арэндзе і высяленні таварыства з памяшкання. Пасяджэнне суда было закрытым. Усе патрабаванні ЖРЭА суд палічыў справядлівымі. Праўда, суму запазычанасці знізілі да 540789761 рубля, але і такіх грошай таварыства не мае. Так што, згодна рашэнню суда, ТБМ павінна пакінуць сваю сядзібу ў цэнтры горада (Румянцава, 13). ТБМ мае намер абскардзіць гэтае рашэнне.

### *ПАГРОЗА ТЫДНЯ*

Яшчэ год таму ў Беларускага гуманітарнага ліцэя ўлады хацелі адабраць будынак на вуліцы Кірава. Тады, як памятаеце, не атрымалася. Зараз гаворка ідзе аб ліквідацыі ліцэя ўвогуле. Ліквідацыі праз аб'яднанне з ліцэем, што пры БДУ. Тры міністэрствы, у кампетэнцыі якіх гэтая справа, ужо далі згоду. Засталося сабраць некалькі подпісаў.

Ліцэісты, іхнія бацькі, выкладчыкі ліцэя маюць намер бараніць гэтую, ці не апошнюю, "барыкаду беларушчыны". Больш цалкам беларускамоўных навучальных устаноў у краіне няма...

### *ВЫСТАВА ТЫДНЯ*

У Нацыянальным мастацкім музеі выстава дзіцячых малюнкаў, прысвечаная Міжнароднаму дню абароны дзяцей. Дзіцячая творчасць часам дае добрае ўяўленне пра змены, што адбыліся вакол нас, а мы — дарослыя — іх не заўважылі альбо не захацелі заўважыць. Новыя рэаліі і новыя (у пэўным сэнсе — вечныя) ідэі пільны глядач знойдзе і на гэтай выставе.

### *АКЦЫЯ ТЫДНЯ*

Прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Міністэрства культуры Беларусі, Мінскі гарвыканкам, Беларускі нацыянальны камітэт садзейнічання Праграме ААН па навакольным асяроддзі ЮНЕПкам, Саюз мастакоў ды наша Нацыянальная акадэмія навук — вось колькі чыннікаў у гэтай міжнароднай акцыі! Называецца яна "Экасфера-98", праходзіць у Мінску з 4 па 16 чэрвеня. Учора ў Акадэміі навук ладзілася канферэнцыя на тэму "Праблемы экалогіі чалавека і ўстойлівае развіццё грамадства". Сёння, у Сусветны дзень аховы навакольнага асяроддзя, у Рэспубліканскай мастацкай галерэі адкрыецца выстаўка "Экасфера-98". Жывапіс, графіка, скульптура, дзіцячы малюнак, — самыя розныя творы ўваходзяць у гэтую экспазіцыю, тэма якой актуальная для кожнага жыхара планеты і асабліва балючая для насельнікаў нашага "чарнобыльскага" ды "хімізаванага" дома...

### *ГАСТРОЛІ ТЫДНЯ*

Упершыню за апошнія пяць гадоў Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі выправіўся на гастролі ў абласны цэнтр роднай краіны. Выступленні адбываюцца ў Брэсце і маюць завяршыцца праз тыдзень. Гастрольная дэкада складаецца з пакazu дзевяці оперных спектакляў і дзвюх канцэртных праграм.

### *ІМПРЭЗА ТЫДНЯ*

Калі б не настойлівыя абвесткі па радыё, мінчукі наўрад ці адчулі б, што пачатак лета прынёс у сталіцу яшчэ адзін фестываль. Па ліку гэта ўжо трэцяя (а значыць, традыцыйная) імпрэза "Музыка і тэатр". У адрозненне ад найбольш прадстаўнічага першага (тады досыць поўна і рознабакова былі агледжаны стасункі беларускіх кампазітараў з тэатрам, і не толькі музычным), сёлетні фестываль нагадвае "канцэртную кампанію": канцэрт салістаў Нацыянальнай оперы ды Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі ў Палацы культуры МАЗа, выкананне арый маладымі спевакамі Беларусі ды гасцямі з краін СНД у Вялікай зале сталічнай філармоніі, вечар раманса ў Зале камернай музыкі, прысвечаны 30-годдзю творчай дзейнасці саліста Нацыянальнага тэатра оперы Дзмітрыя Марозава...

### *ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ТЫДНЯ*

Чацвер, 4 чэрвеня, галерэя "6-я лінія", Зміцер Вішнёў, акцыя візуальнай паэзіі "Падземныя Графумусы". Аўтар ладзіў прэзентацыю сваёй кнігі "Штабкавы тамтам" і перфоменс "Краіна кактусаў", нібыта палемізуючы з "нячэснымі" маскоўскімі журналістамі, якія абазвалі Беларусь "краінай агуркоў". Зрэшты, калі, як вядома, "Расія — радзіма сланоў", дык чаму б Беларусі не быць "краінай кактусаў"?

"Падземныя Графумусы" — серыя графічных твораў. Гэта кніга, ледзь не ўсе старонкі якой напісаны на розных мовах. Прычым шэраг гэтых моў разумее толькі аўтар.

АНОНС

# "Беларусь не пакіне спяваць!"

Вядомы радок Л. Дранько-Майсюка стаўся назвай аднаго з канцэртаў фестывалю "Маладзечна-98", які пройдзе з 19 па 21 чэрвеня. Гэта будзе пяты ў сёлетнім сезоне фэст, зладкаваны намаганнямі Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра М. Фінберга, і — пяты нацыянальны фестываль беларускай паэзіі ды песні, узгадаваны на маладзечанскай зямлі.

Падчас традыцыйнай сустрэчы з журналістамі, на якой, апроч кіраўніцтва Дзяржаўнага канцэртнага аркестра, прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрства культуры Беларусі, маладзечанскіх уладаў ды Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, гаварылася пра адметнасць сёлетняга песенна-паэтычнага свята — бадай, адзінага ў сваім жанры прафесійнага беларускага фестывалю. Арганізатары не здраджваюць ягоным традыцыям: усе тры дні "гаспадыняй у сваёй хаце" будзе пачуваць сябе наша мова, паэтычнае беларускае слова.

Як і планавалася раней, першым канцэртам станецца выступленне даравітых дзяцей — удзельнікаў сёлетняга новага фэсту "Спяваем з аркестрам..." А калі Маладзечна атуляць прыцемкі, звонкія фанфары абвесцяць урачыстае адкрыццё свята. У той жа вечар будуць спаборнічаць за конкурсныя лаўры маладыя спевакі — у суправаджэнні аркестра пад кіраўніцтвам М. Фінберга..

Дарэчы, маэстра па-ранейшаму культывуе ва ўсіх канцэртных (і конкурсных) праграмах жывы гук. Так што і пачаткоўцы і спешчаныя папулярнасцю майстры будуць у аднолькавых творчых умовах. А публіка зможа пераканацца, што сапраўднае жывое мастацтва ўзрушвае незалежна ад таго, найноўшае яно ці "старамоднае", "гарадское" ці "вясковае". Дарэчы, з гэтага гледзішча інтрыгуе канцэрт, які пайменаваны названым радком паэта. Праграма пад назваю "Беларусь не пакіне спяваць!" адбудзецца 20 чэрвеня і паяднае мастацтва таких розных беларускіх калектываў, як Акадэмічны народны хор імя Г. Цітовіча пад кіраўніцтвам маэстра М. Дрынеўскага, рок-гурты "Крама", "Уліс", "Палац", "Народны альбом", "Новае неба", "Крыві" ды інш.

Наогул, змест "Маладзечна-98" вельмі насычаны. Тут і рэцытал рыцара беларускай песні Якава Навуменкі, і выступленні маладзечанскіх музыкаў, і сустрэчы з паэтамі, і канцэрт Акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам маэстра М. Казінца, і вялікі заключны канцэрт пад назваю "Зоркі маёй краіны", дзе ў суправаджэнні Дзяржаўнага канцэртнага аркестра будуць спяваць не толькі ягоныя салісты, але і, напрыклад, Анатоль Ярмоленка, і Алеся — як і ўсе, жывым гукам!

Асаблівасць сёлетняга конкурснага тура ў тым, што журы складаецца з прадстаўнікоў усіх абласцей краіны, сярод якіх кампазітары В. Кандрасюк (Брэст), Н. Усцінава (Віцебск), У. Брайлоўскі (Магілёў), А. Атрашкевіч (Маладзечна) ды інш. Старшынёю журы будзе вядомы творца Валерый Іваноў.

"Маладзечна-98" увойдзе, можна лічыць, у кожны беларускі дом — дзякуючы трансляцыям Беларускага тэлебачання.

**С. Б.**

# "Нашы ідэі падаюць не на камень..."

***З нагоды агульнанароднага Дня святой Еўфрасінні Полацкай наш карэспандэнт сустрэўся са старшынёй Усебеларускага жаночага фонду імя гэтай выдатнай асветніцы — Валянцінай КОЎТУН.***

**— 5 чэрвеня — дзень смерці святой — стаў днём удзячнай памяці нашчадкаў. Гэта, як я разумею, асаблівая дата найперш для самога фонду?**

— Так. На нашых вачах ствараецца новая нацыянальная традыцыя. Першае святкаванне Дня адбылося ў 1994-м годзе — у час, калі старыя традыцыі разбураліся, а новыя не паспелі нарадзіцца. Тады свята прайшло на высокім дзяржаўным узроўні. Нам уяўляецца, што сёлета 5 чэрвеня будзе днём усеагульнай малітвы і ўшанавання жанчыны як стваральніцы.

**— Фонду святой Еўфрасінні Полацкай спаўняецца 5 гадоў. Амаль юбілей. Што падаецца найбольш значным у дзейнасці гэтай арганізацыі?**

— Варта адзначыць, што, па сутнасці, мы ішлі па цаліку. За гэты час фонд стаў генератарам многіх агульназначных ідэй. Сярод іх конкурс "Жанчына года" з узнагароджаннем медалём святой Еўфрасінні Полацкай Вялікай. Жанчынамі года названы Стэфанія Станюта, Марыя Захарэвіч, Валянціна Гаявая, Ядвіга Грыгаровіч, Валянціна Палевікова, Ліна Кастэнка, Тамара Бірыч; імёны, як бачым, гавораць самі за сябе.

Важнае значэнне мы надаём абароне правоў жанчыны. У мінулым годзе быў праведзены першы Міжнародны кангрэс па згаданым пытанні з удзелам гасцей з Літвы, Украіны, Расіі. Пазней праваабарончая тэматыка ўвайшла ў планы многіх жаночых арганізацый. Як арганізацыя асветніцкая, фонд засяродзіў увагу і на экалагічнай асвеце жанчын. У Міжнародным саміце "Жанчына ў зоне экацыду" было прадстаўлена каля двухсот грамадскіх, экалагічных, асветніцкіх, навуковых устаноў і арганізацый. У гэтай справе нас падтрымала дзяржава і актывісткі жаночага руху многіх краін, у тым ліку ЗША. Так што ідэі падаюць не на камень...

**— Паколькі нейкія формы святкавання ўжо усталяваліся, то ці няма пагрозы стэрэатыпу — таго, на што хварэюць дзяржаўныя — старыя і новыя — святы?**

— У нас на тое няма "стэрэатыпных" зарплат, — фонд арганізацыя грамадская, добраахвотная. Мы не паперкі на стале перакідаем — аддаём справе святой Еўфрасінні здольнасці, сілы, час, здароўе ўрэшце. А што ідзе ад душы, а не ад чыноўніцкага абавязку, ніколі не змярцвее. Традыцыя, спадзяюся, будзе развівацца і пашырацца. Яна даўно выйшла за межы Полацка. Святая сапраўды павінна стаць нябеснай апякункай беларускага народа.

**— А што значыць гэты вобраз для вас асабіста як пісьменніцы і дзеячкі?**

— Кожны, хто дакранаецца да светлага вобраза асветніцы, адчувае на сабе ўплыў энергетыкі Веры, пачынае па-іншаму ўспрымаць свет. Адказнасць перад Богам, перад народам, перад сваім талентам становіцца больш асэнсаванай, ідэя Беларусі ў гістарычнай прасторы прасвечвае новымі гранямі. Дзякуючы Еўфрасінні, я глыбей усвядоміла сэнс такіх паняццяў, як міласэрнасць, народная дыпламатыя. Вобраз святой сёння далучаецца да хрысціянскага выхавання асобы, што не можа не радаваць.

**— Якія мерапрыемствы адбудуцца 5 чэрвеня?**

— Фонд праводзіць Еўфрасінеўскі форум. Гэта не адно, а цэлы шэраг мерапрыемстваў на працягу тыдня. Пачнецца Форум паломніцтвам у старажытны Полацк. Адбудуцца кіналекторый, сустрэча з творчай інтэлігенцыяй, літаратурныя чытанні з удзелам С. Законнікава, У. Арлова, Р. Баравіковай, А. Пісьмянкова, Н. Гальпяровіча. У плане таксама сустрэча са Святланай Алексіевіч. У музеі Янкі Купалы адкрыецца міжнародная выстава "Жаночае аблічча Беларусі", пройдзе прэзентацыя зборніка "Бацькаўшчына. Кніга Прадславы". А каб свята прыйшло ў кожны дом, падрыхтавана шмат радыё- і тэлеперадач.

# Адаму, бацьку Максіма

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Дарэчы, і кар'ера ягоная — праява выключнага таленту. Не меў вялікіх капіталаў, але ўваходзіў у фінансавую эліту Расіі. Пры гэтым меў ліберальна-дэмакратычныя погляды, і сярод ягоных знаёмцаў былі асобы, творчасць якіх сёння ўваходзіць у абавязковую праграму школ і ВНУ.

Можна канстатаваць: без Адама Багдановіча не было б Максіма Багдановіча. Зрэшты, каб не Адам Ягоравіч, для гісторыі і для краіны, для нас не захавалася б шмат якія рукапісы Максіма...

Гэты чалавек варты ўдзячнай памяці, варты помніка. І помнік нарэшце з'явіўся. У пятніцу 29 мая ў мястэчку Халопенічы Крупскага раёна, дзе ў 1862 годзе нарадзіўся Адам Багдановіч, адкрыты бронзавы бюст на мармуровым пастаменце. Скульптар Уладзімір Лятун, архітэктары Юрый Казакоў (Мінск) і Сяргей Малюк (Крупкі). Помнік надзвычай выразны. Мяркую, што гэта творчая ўдача скульптара (дарэчы, не так даўно ён зрабіў помнікі Вітальду Бялыніцкаму-Бірулю і Паўлу Масленікаву, зараз працуе над вобразам Уладзіміра Алоўнікава). Да справы пабудовы помніка прычыніўся мінскі клуб "Спадчына" і ягоны старшыня Анатоль Белы, шэраг грамадскіх арганізацый і навуковых устаноў. Помнік рабіўся на грошы мясцовага і рэспубліканскага бюджэту.

На адкрыцці помніка Адаму Багдановічу былі госці з Мінска — літаратары, навукоўцы, журналісты. Былі традыцыйныя для такіх імпрэзаў словы аб повязі часоў, аб значэнні мінуўшчыны для будучыні, аб надзённым і вечным. Прыемна, што пра гэта гаварылі не толькі тыя, чыя прафесія — слова, але і прадстаўнікі ўлады, чыя праца мае з паэзіяй мала агульнага. Можа, і сапраўды мы падышлі (аль-

# Ад Падкамітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1998 года дапушчаны наступныя работы:

**У галіне літаратуры:**

*На прэмію імя Я. Купалы за творы паэзіі і драматургіі:*

1. **Някляеў Уладзімір Пракопавіч** за кнігу вершаў "Прошча". Вылучаны Саюзам беларускіх пісьменнікаў.

2. **Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч** за кнігу вершаў "Бабчын: Кніга жыцця". Вылучаны Міністэрствам па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь і калектывам супрацоўнікаў цэнтралізаванай сістэмы публічных бібліятэк г. Мінска.

3. **Марозаў Змітрок Змітравіч** за вянок вянкоў санетаў "Апакаліпсіс душы". Вылучаны Цэнтральнай бібліятэкай імя Я. Купалы г. Мінска, Магілёўскай абласной аб'яднанай бібліятэкай імя У. І. Леніна, Галоўнай рэдакцыяй літаратурна-драматычных праграм Беларускага радыё.

4. **Камейша Казімір Вікенцьевіч** за кнігу паэзіі "Лінія лёсу". Вылучаны Саюзам беларускіх пісьменнікаў.

*На прэмію імя Я. Коласа за творы прозы і работы ў галіне літаратуразнаўства і крытыкі:*

5. **Капыловіч Іван Іванавіч** за раманы "Крумкач" і "Пасынак". Вылучаны Цэнтральным Саветам Беларускага таварыства інвалідаў і калектывам настаўнікаў Рамязоўскай СШ Ельскага раёна Гомельскай вобласці.

6. **Коўтун Валянціна Міхайлаўна** за раман "Крыж міласэрнасці". Вылучана Саюзам беларускіх пісьменнікаў.

*На прэмію за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва:*

7. **Скобелеў Эдуард Марцінавіч** за кнігі для дзяцей "Новые необыкновенные приключения Арбузика и Бебешки" і "Удивительные приключения пана Дыли". Вылучаны калектывам Мінскага Палаца дзяцей і моладзі.

8. **Паўлаў Уладзімір Андрэевіч** за кнігу паэзіі для дзяцей "Хто знае — адгадае". Вылучаны Саюзам беларускіх пісьменнікаў.

9. **Зарэмба Міхась Мікалаевіч** за кнігу "Арэхавы спас". Вылучаны калектывам рэдакцыі газеты "Раніца".

*На прэмію імя К. Каліноўскага за работы ў галіне мастацкай публіцыстыкі:*

10. **Марціновіч Алесь Андрэевіч** за кнігу нарысаў і эсэ "Зерне да зерня". Вылучаны калектывам Цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэкі г. Мінска.

*На прэмію за значныя работы ў галіне журналістыкі:*

11. **Вялічка Уладзімір Паўлавіч, Шырко Васіль Аляксандравіч, Глушакоў Уладзімір Сцяпанавіч** за цыкл публіцыстычных артыкулаў у часопісе "Беларуская думка". Вылучаны Зэльвенскім раённым выканкомам Гродзенскай вобласці.

12. **Шыманскі Міхаіл Мікалаевіч** за цыкл публіцыстычных артыкулаў "Дакрануцца сэрцам. Час і людзі ў роздуме журналіста" ў газеце "Рэспубліка". Вылучаны рэдакцыяй газеты "Рэспубліка".

**У галіне мастацтва і архітэктуры —**

*На прэмію за музычныя творы буйных і малых форм, а таксама за канцэртна-выканальніцкую дзейнасць:*

13. **Вагнер Генрых Матусавіч** за сімфонію N 4 для сімфанічнага аркестра і народнага хору. Вылучаны Беларускім саюзам кампазітараў.

14. **Чыркун Алег Міхайлавіч** за цыкл песень "Карагод" для дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту. Вылучаны Беларускім дзіцячым фондам.

*На прэмію за шырока прызнаныя работы рэжысёраў, дырыжораў, балетмайстраў, хормайстраў, артыстаў, мастакоў, сцэнарыстаў, кампазітараў і драматургаў, аператараў у пастаноўках тэатраў, кінастудый, на тэлебачанні і радыё:*

15. **Пашкоў Генадзь Пятровіч, Лапцінскі Ігар Васільевіч, Красоўскі Віктар Іванавіч, Камарова Ніна Яўгенаўна** за лірычна-дакументальную радыёаповесць "Палескія вандроўнікі". Вылучаны калектывам Беларускага Дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту і бібліятэкай N 1 імя Л. Талстога г. Мінска.

16. **Янкоўскі Расціслаў Іванавіч** за акцёрскія работы апошніх год (ролі Талейрана ў п'есе Ж.-К. Брысвіля "Сняданак", Старцава ў п'есе А. Дударава "У прыцемках", Максіміліяна Моора ў п'есе Ф. Шылера "Браты Моор", Нормана Тэйера ў п'есе Э. Томпсана "На залатым возеры" і Нікана Букеева ў п'есе М. Горкага "Букееў і кампанія". Вылучаны дзяржаўным акадэмічным рускім драматычным тэатрам імя М. Горкага).

*На прэмію за творы жывапісу, скульптуры, графікі, манументальна-дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва, дызайну:*

17. **Арцімовіч Анатолій Яфімавіч** (скульптар), **Марозаў Ігар Вячаслававіч** (архітэктар) за помнік Рагнедзе і Ізяславу ў г. Заслаўі. Вылучаны Беларускім саюзам мастакоў.

18. **Астаф'еў Эдуард Барысавіч** (скульптар), **Казакоў Юрый Іванавіч** (архітэктар) за помнік Францыску Скарыне ў Празе. Вылучаны Беларускім саюзам мастакоў.

19. **Скрыпнічэнка Георгій Сяргеевіч** за цыкл жывапісных твораў "Мастак і Айчына". Вылучаны Беларускай акадэміяй выяўленчага мастацтва.

*На прэмію за арыгінальную архітэктуру грамадзянскіх, прамысловых збудаванняў у горадзе і на сяле:*

20. **Тарноўскі Уладзімір Мікалаевіч, Карунас Васіль Канстанцінавіч, Нічкасаў Анатоль Іванавіч, Белікаў Генадзь Іванавіч, Малевіч Юрый Мікалаевіч, Пархута Анатоль Сяргеевіч, Еўдакімаў Уладзімір Мікітавіч, Прэабражэнскі Уладзімір Барысавіч** за архітэктуру жылога гарадка Рось Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. Вылучаны Беларускім саюзам архітэктараў.

*На прэмію за даследаванні па тэорыі і гісторыі мастацтва:*

21. **Куляшова Галіна Рыгораўна, Дубкова Тамара Аляксандраўна, Мдзівані Таццяна Герасімаўна, Пятрова Людміла Іванаўна, Чурко Юлія Міхайлаўна, Ючанка Надзея Аляксандраўна** за даследаванне "Музычны тэатр Беларусі" ў 3-х тамах. Вылучаны Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі.

Водгукі, матэрыялы абмеркаванняў, прапановы і заўвагі па работах і аўтарскіх калектывах просьба накіроўваць у Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры да 1 лістапада 1998 года па адрасе: *220072, г. Мінск, вул. Сурганава, 1, корп. 2, пакой 412; тэл./факс 284-23-81.*

# Фестываль паэзіі на возеры Свіцязь

5—7 чэрвеня на возеры Свіцязь пройдзе вялікі фестываль паэзіі, прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. У ім прымуць удзел А. Вазнясенскі, У. Някляеў, А. Дудараў, Р. Барадулін, А. Мальдзіс, Я. Будзінас і іншыя.

Галоўнай падзеяй фестывалю стане прэзентацыя кнігі "Свіцязянскі вянок". У яе ўвайшлі творы Адама Міцкевіча і Андрэя Вазнясенскага ў перакладзе Рыгора Барадуліна.

У кінатэатры пансіяната "Свіцязь" можна будзе паглядзець дакументальныя фільмы з серыі "Адам Міцкевіч — Беларусь — сусветная культура", а ў бібліятэцы — выставу, прысвечаную творчасці А. Міцкевіча, А. Пушкіна і А. Вазнясенскага.

Госць з Масквы правядзе свой літаратурны вечар "Сярод сяброў".

Закончыцца фестываль паэзіі наведваннем яго ўдзельнікаў міцкевічаўскіх мясцін Свіцязянскага краю.

бо падыходзім) да ўсведамлення культурніцкага фактара ў эканоміцы? Адукаваны чалавек, які ведае, за што ён любіць сваю краіну, урэшце будзе лепшым работнікам, чым абыякавы да ўсяго маргінал...

Халопенічы — звычайнае беларускае мястэчка савецкага ўзору, але, дзякуй Богу, штосьці ў ім захавалася з дабальшавіцкіх часоў. Скажам, дзіўна, што больш як за 70 год савецкай улады мястэчка захавала сваю "стараражымную назву". У Халопенічах ніколі не было помніка Леніну, хоць местачковы статус аўтаматычна прадугледжваў статую правадыра перад будынкам мясцовай улады. На "ленінскім" месцы стаіць цяпер Адам Багдановіч — і гэта правільна... Колішні кляштар — цяпер Дом культуры, ад царквы засталіся падмурак і сцены. Каб былі грошы, мясцовыя людзі на чале з праваслаўным святаром хутка ўзвялі б дах... Цікава, што ў самым цэнтры мястэчка побач з помнікам А. Багдановічу стаіць памятны знак у гонар утварэння Халопеніцкай воласці...

Адам Ягоравіч Багдановіч доўгі час быў у цені свайго сына — класіка нашай літаратуры. І хоць імёны Адама і Максіма сапраўды знітаваны непарушна, аднаўленне справядлівасці патрабуе адзначыць унікальнасць асобы Багдановіча-старэйшага.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**



*На здымках: помнік Адаму Багдановічу; выступае намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Вольга Іпатава.*

*Фота Я. КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

АБСЯГІ

*ВІЦЕБСК...*

## Зноў пра класічны авангард

Віцебск увайшоў у лік гарадоў, якія шырока адзначаюць 120-годдзе з дня нараджэння вялікага мастака, сцвярджальніка новага мастацтва Казіміра Малевіча. На днях прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя "Малевіч. Класічны авангард. Віцебск". У ёй бралі ўдзел вядомыя навукоўцы і мастацтвазнаўцы з Расіі, Украіны, Беларусі.

"Малевич. УНОВИС. Современность" — так называецца выстава ўдзельнікаў двух міжнародных пленэраў, якая адкрылася ў мастацкім музеі.

Сярод мастакоў, скульптараў, архітэктараў і дызайнераў праведзены конкурс на праект мемарыяльнага знака ў памяць К. Малевічу і манументальна-мастацкай кампазіцыі, прысвечанай віцебскай мастацкай школе. Наступны крок — рэалізацыя лепшых праектаў.

**Таццяна ПАСТАРНАК**

*ГРОДНА...*

## Прэм'ера ў драмтэатры

З аншлагам у Гродзенскім драматычным тэатры прайшла прэм'ера п'есы А. Дударава "Рагнеда і Уладзімір". Спектакль паставіў В. Мазынскі. Ён зрабіў усё, каб гэтая пастаноўка ў тэатры была адметнай. В. Шалкевіч іграў Блуда бесподобна — гэта алегарычнае ўвасабленне простага чалавека. На спектаклі прысутнічаў аўтар.

## "Максімаў дзень"

У музеі Максіма Багдановіча прайшоў 25 траўня "Максімаў дзень" — канферэнцыя навукоўцаў, літаратараў, журналістаў. У гэты дзень у Ялце ў 1917 годзе памёр паэт. Канферэнцыю праводзіў "Максімаў клуб".

Адбылася прэзентацыя партрэта Максіма работы Сяргея Грыневіча. Партрэт створаны для вялікай залы, для сцэны — прыгожы, строгі і лірычны Паэт глядзіць на нас з палатна.

**Алена ГАЙКО**

*ГОМЕЛЬ...*

## Гала-канцэрт народных талентаў

У драмтэатры адбыўся гала-канцэрт абласнога фестывалю народнай творчасці "Беларусь — мая песня". Прыехала сюды 800 пераможцаў гарадскіх, раённых і зanальных аглядаў-конкурсаў, у якіх удзельнічала 40 тысяч самадзейных артыстаў розных жанраў. У гала-канцэрце браў удзел міністр культуры Беларусі А. Сасноўскі. Журы ўзначальваў народны артыст рэспублікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі краіны М. Дрынеўскі. Пераможцы гомельскага тура, як і з іншых абласцей Беларусі, выступяць у заключным канцэрце першага рэспубліканскага фестывалю "Беларусь — мая песня", які адбудзецца ў пачатку ліпеня ў Мінску.

## Прысвечана Кірылу і Мяфодзію

У абласным грамадска-культурным цэнтры адбыліся мерапрыемствы, прысвечаныя Дням Кірылы і Мяфодзія, пісьменнасці і культуры славянскай супольнасці і еднасці. У іх прынялі ўдзел прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, творчых саюзаў, Таварыства Кірылы Тураўскага, камерны хор абласной філармоніі "Славянская душа".

Удзельнікі Дзён наведалі манумент дружбы на сумежжы Беларусі, Расіі і Украіны. Устаноўлены тут і Паклонны Крыж Кірылу і Мяфодзію, да якога былі ўскладзены кветкі.

## "Маё Палессе"

З творчай паездкі ў палескія раёны вобласці вярнуўся вядомы гомельскі мастак Уладзімір Кароткі. У гэтыя дні ён адзначае 40-годдзе творчай дзейнасці. Да юбілею падрыхтаваў цыкл карцін "Маё Палессе". У іх — прыгажосць нашай роднай зямлі. Панарамныя кампазіцыі мастака са светлымі і мажорнымі фарбамі, аптымістычным настроем нараджаюць узвышаныя пачуцці, выклікаюць гордасць за любы наш край. Менавіта такі настрой пакідаюць карціны "Цішыня над Прыпяццю", "Палескія буслы", "Дубы-волаты"... Дарэчы, творы У. Кароткага экспанаваліся на нядаўняй выставе "Зямля Палесся" ў мінскім Палацы мастацтваў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*БРЭСТ...*

## У гонар паэта-земляка

Крыху больш чым год назад не стала вядомага паэта-лірыка Міколы Федзюковіча. Яму сёлета споўнілася б 55... Дзень нараджэння земляка жыхары вёскі Гутава Драгічынскага раёна адзначылі святам ягонай паэзіі. Ініцыятар — раённая цэнтралізаваная бібліятэка на чале з дырэктарам Аленай Стасюк. Са сцэны вясковага клуба прагучалі ўспаміны пра паэта і вялікая літаратурна-музычная кампазіцыя. Выступоўцы гаварылі пра неабходнасць увекавечыць імя Міколы Федзюковіча стварэннем дома-музея. За гэта, у прыватнасці, выказаўся старшыня тутэйшага калгаса Вячаслаў Родак, які паабяцаў дапамагчы гэтай добрай справе матэрыяльна.

## Пакуль маўчаў арган

У брэсцкім касцёле, які размешчаны ў цэнтры горада, пачынае гучаць не толькі арган, не толькі духоўная, але і свецкая класічная музыка. Нядаўна тут наладзіў канцэрт камерны аркестр абласной філармоніі пад кіраўніцтвам Аляксандра Мартыненкі, былі выкананы творы І. С. Баха, І. Х. Баха, А. Вівальдзі, Дж. Пергалезі і іншых кампазітараў. Храм у гэты вечар быў перапоўнены (і, зразумела, не толькі вернікамі). Слухачы дастойна ацанілі выступленне аркестра і яго салістаў — Валянціны Гарноўскай (віяланчэль), Аляксандра Завады (альт), Сяргея Шаўчука (флейта), Святланы Зіневіч і Таццяны Куляшовай (скрыпка).

**Сымон АКСЕНІН**

**УВАГА!**

Па тэхнічных прычынах з 4 чэрвеня г.г. некаторыя нумары тэлефонаў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" змяніліся:

233-24-61 на 284-84-61
233-24-62 на 284-84-62
233-21-53 на 284-81-53
233-25-25 на 284-85-25
233-22-04 на 284-82-04

## На радзіме песняра



Дзевяты раз зямля Якуба Коласа сустракала юных музыкантаў, што зляцеліся на чарговы Рэспубліканскі фестываль "Сымон-музыка". Першы дзень урачыстасці — літаратурнае свята "Слова пра Коласа" і дзіцячае раённае свята мастацтва "Альбуцкая крынічка" — прайшоў у маляўнічым кутку Наднямоння Ластку, дзе народны паэт правёў свае раннія дзіцячыя гады, у кутку, неабходжаным і неаб'езджаным экскурсантамі (доўгі час наведвацца сюды забаранялася — леснічоўка знаходзілася на тэрыторыі, што падпадала пад воінскую зону). З мінулага года тут стаў філіял музея Якуба Коласа — ужо чацвёрты на песняровай радзіме.

Госці з Мінска — дырэктар Коласаўскага музея Зінаіда Камароўская, пісьменнікі Генрых Далідовіч, Мікола Маляўка і Алесь Камароўскі, мастачка Алена Лось, кампазітар Уладзімір Буднік — цёпла віталі ўдзельнікаў фестывалю, гаварылі словы падзякі песняру за здзейсненае ім. Тымі ж пачуццямі былі напоўнены і выступленні мясцовых гасцей — намесніка старшыні Стаўбцоўскага райвыканкама Івана Багаткі і рэдактара газеты "Прамень" Сяргея Галоўкі.

Чыннасць мерапрыемству надавала прысутнасць на ім прадстаўніка Пасольства Японіі ў Беларусі і некалькіх кітайскіх студэнтаў, што навучаюцца ў Белдзяржуніверсітэце.

Пацешыў прысутных майстэрскім чытаннем раздзела пра дзядзьку-кухара вядучы інжынер-канструктар Мінскага завода колавых цягачоў Іофіс Гарэцкі (заўважым — сёлета спаўняецца 75 гадоў "Новай зямлі").

Назаўтра ў Стаўбцоўскім Доме культуры праслухоўвалася конкурсная праграма фестывалю.

На трэці дзень у Старасвержанскім Доме культуры свае ўмельства паказвалі пераможцы.

Аксана СЛЕСАРЭНКА
*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

## Яшчэ адзін музей

28 мая г. г. пералік беларускіх музеяў папоўніўся яшчэ адным — галіновым Музеем гісторыі развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў Беларусі.

У прысутнасці работнікаў гарадской гаспадаркі і проста мінчукоў кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мясніковіч, у мінулым — міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі рэспублікі, перарэзаў стужку і тым самым запрасіў у музей першых наведвальнікаў.

У. КІСЯЛЁЎ

## Высокія ўзнагароды "Народнай асветы"

Вось ужо амаль паўстагоддзя плённа шчыруе на ніве адукацыі Дзяржаўнае прадпрыемства "Выдавецтва "Народная асвета". З яго грыфам убачыла свет каля 9 тысяч назваў падручнікаў, метадычных дапаможнікаў, кніг мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры, тыраж якіх перавысіў паўмільярда экземпляраў. Гэтыя выданні вызначаюцца навуковай выверанасцю, высокім літаратурным і мастацкім узроўнем, неаднаразова адзначаліся на конкурсах "Мастацтва кнігі" рознымі прэміямі. І вось новая ўзнагарода: Міжнародная Асацыяцыя маркетынгу і якасці "Горад Мехіка" адзначыла гэтае выдавецтва "Міжнароднай залатой і сярэбранай узнагародай за якасць".

М. МІКАЛАЕНКА

**Гэтага хударлявага, ціхмянага хлапчука прывяла на адну з паэтычных вечарын у купалаўскім літаратурным музеі і папрасіла даць яму слова маладая настаўніца роднай мовы. Ён выйшаў з задніх радоў з тоненькім сшыткам у руках і нясмела пачаў чытаць. Голас яго задрыжэў, сам ён нібы наструніўся — і ў зале стала ціха-ціха: столькі шчырасці, болю і тэмпераменту было ў яшчэ каструбаватых вершаваных радках. Як я даведаўся пасля, гэты выдатнік, сын фізіка — апантаны прыхільнік беларускай мовы, не па гадах сур'ёзны і заклапочаны яе абаронца. Мне здаецца, што і неблагімі паэтычнымі здольнасцямі ён не абдзелены. Таму і хачу, каб як мага болей людзей пазнаёміліся з вершам-споведдзю мінскага васьмікласніка, які так крануў сэрцы ўсіх, хто слухаў яго ў святым Купалавым доме.**

**Генадзь БУРАЎКІН**

# Мова — шлях, мова — хлеб, мова — кроў...

*Мне чужога нічога не трэба!*
*Мне чужыя не трэба краі.*
*Я не прагну чужанскага неба.*
*У мяне ёсць палі і гаі.*

*Мілагучная, родная мова!*
*Як цябе не любіць, не кахаць?*
*Што мацней, што гучней твайго слова,*
*Мая гордая, смелая мова?*
*Што цяжэй за цябе аддаваць?*

*Найлягчэй проста кінуць, забыцца,*
*Харкнуць, потым нагой растаптаць.*
*Найлягчэй абсмяяць, паглуміцца,*
*Заткнуць вушы: "А мне наплеваць".*

*Найцяжэй не пакінуць няволі,*
*Не забыць, не адмовіць, не збыць.*
*Найцяжэй не шукаць лепшай долі,*
*Да апошняй хвіліны служыць.*

*Паўпамерлая родная мова!*
*Паўзагінуўшы родны народ!*
*Паўпакінута роднае слова,*
*Не забыты затое гарод!*

*Мова, слова, нашто яны трэба?*
*Ці ж нам імі заплакаць душой,*
*Ці ахвяру прыносіць сабой,*
*Ці любіць, ці пакутаваць нема,*

*Калі чарачка ёсць з каўбасой,*
*Да каўбас многа свежага сала,*
*Яек вараных, булак сваіх?*
*Што, табе ўжо і гэтага мала*
*І ты жыць марыш лепш за другіх?..*

*Захацеў, бачыш, родную мову —*
*Дык сканала даўно ўжо яна.*
*Захацеў слухаць роднае слова —*
*Дык між ім і табою — сцяна...*

*Хай гісторыя робіць сваё.*
*Не марнуйся, не гні сваю спіну —*
*За цябе яна зробіць усё,*
*Матчын спеў пакладзе ў дамавіну...*

*Той мярцвяк, хто без мовы жыве.*
*Мова — шлях, мова — хлеб,*
*мова — кроў.*
*Мова ў сэрцы і ў галаве,*
*Калі ты — не адзін з мерцвякоў...*

*Беларусь, прабудзіся, прачніся,*
*Калі можаш прачнуцца яшчэ!*
*Беларус, ачуняй, абудзіся,*
*Калі кроў яшчэ ў жылах цячэ!*

*Мова родная — лепшая з моў.*
*Ты ніколі яе не адмоў.*
*Беларус, хай гучыць зноў і зноў:*
*Мова — шлях, мова — хлеб,*
*мова — кроў!..*

**Мікалай ХІЛА,**
**вучань 8 "г" класа СШ N 213**
**г. Мінска**

# ПАЛАЖЭННЕ

## аб фондзе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва

1. Фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва (далей — фонд) ствараецца ў мэтах фінансавання мерапрыемстваў, прадугледжаных адпаведнымі рэспубліканскімі праграмамі ў галіне культуры і мастацтва, накіраванымі на стварэнне спрыяльных умоў творчага развіцця асобы, яе сацыяльную падтрымку, захаванне гістарычнай спадчыны і культурных традыцый беларускага народа.

2. Сродкі фонду ствараюцца за кошт:

асігнаванняў з рэспубліканскага бюджэту;

дабрачынных узносаў беларускіх і замежных грамадзян, арганізацый, прадпрыемстваў, фондаў і іншых юрыдычных асоб у выглядзе грашовых сродкаў, матэрыяльных каштоўнасцей;

іншых паступленняў.

3. Улік сродкаў фонду, якія паступаюць і выдаткуюцца, робіцца асобна ў рублях Нацыянальнага банка і замежнай валюце.

4. Сродкамі фонду распараджаецца савет фонду, які ствараецца з ліку вядучых дзеячаў культуры і мастацтва, прадстаўнікоў Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, зацікаўленых міністэрстваў і іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, творчых саюзаў і грамадскіх аб'яднанняў.

Савет фонду ўзначальвае старшыня.

Склад савета фонду зацвярджаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

5. Сродкі фонду (у беларускіх рублях і замежнай валюце) выкарыстоўваюцца на фінансаванне праграм развіцця культуры і мастацтва, сацыяльную падтрымку дзеячаў культуры і мастацтва.

Ліміты фінансавання праграм і памер рэзерваванай часткі фонду штогод вызначаюцца саветам фонду.

6. Савет фонду на аснове прапаноў арганізацый, устаноў, творчых саюзаў і іншых грамадскіх аб'яднанняў у межах вызначаных лімітаў прымае рашэнні аб выдзяленні сродкаў на

выплату ганараў і грантаў на стварэнне твораў культуры і мастацтва;

набыццё інструментаў і матэрыяльных сродкаў для заняткаў па ўдасканаленні майстэрства і ажыццяўленні творчай дзейнасці;

арганізацыю стажыровак дзеячаў культуры і мастацтва, творчых праектаў у рэспубліцы і за яе межамі;

забеспячэнне ўдзелу творцаў у конкурсах, выстаўках, фестывалях, сімпозіумах і іншых акцыях у галіне культуры і мастацтва, накіраваных на зберажэнне і развіццё духоўнага багацця нацыі, гістарычнай спадчыны народа;

арганізацыю фестываляў, канцэртаў, выставак, выданняў, стварэнне сцэнічных твораў, твораў выяўленчага мастацтва, правядзенне іншых мерапрыемстваў па выяўленні і заахвочванні талентаў, прапагандзе іх творчасці;

аказанне дапамогі ў арганізацыі павышэння кваліфікацыі, удасканалення прафесійнага майстэрства творчых работнікаў;

аказанне разавай матэрыяльнай дапамогі дзеячам культуры і мастацтва.

7. Пасяджэнні савета фонду праводзяцца па меры неабходнасці, але не радзей аднаго разу ў паўгода. Пасяджэнне лічыцца правамоцным, калі ў ім бярэ ўдзел не менш за дзве трэці членаў савета фонду. Рашэнні прымаюцца простай большасцю галасоў прысутных членаў савета, афармляюцца пратаколамі і зацвярджаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

8. Аперацыі па накапленні і выдаткаванні сродкаў фонду ажыццяўляюцца Міністэрствам культуры.

9. Савет фонду штогод прадстаўляе ў Міністэрства культуры справаздачу аб выкарыстанні сродкаў фонду.

***Увага!***

*З канкрэтнымі прапановамі, якія вынікаюць з дадзенага Палажэння, звяртацца ў творчыя саюзы і ў Міністэрства культуры.*




# Ні дня без песні!

Першы рэспубліканскі фестываль народнага мастацтва "Беларусь — мая песня" паступова набліжаецца да сваёй кульмінацыі — гала-канцэрта ў Мінску, які адбудзецца ў ліпені і будзе доўжыцца ажно тры дні! У гэты час мінчан і гасцей сталіцы парадуюць сваімі выступамі лепшыя з лепшых самадзейных артыстаў — лаўрэаты абласных і рэспубліканскіх аглядаў і конкурсаў народнай творчасці. І калі першыя з "фіналістаў" вялікага фестывалю названыя ў мінулым годзе, дык вызначэнне апошніх яшчэ наперадзе: абласныя адборачныя туры завяршаюцца ў чэрвені.

Самым жа напружаным месяцам падрыхтоўкі стаў, безумоўна, май. Амаль штодзень (калі браць у маштабах усёй краіны) па абласных і раённых цэнтрах праходзілі розныя фестывалі, конкурсы, агляды, канцэрты. І што вельмі прыемна, нягледзячы на "агародна-дачны" сезон, у глядзельных залах амаль не было вольных месцаў. А вызначэнне пераможцаў журы далося вельмі складана. Па-першае, амаль усе выступоўцы былі на вельмі добрым узроўні, па-другое, артыстаў было зашмат. Напрыклад, у заключным канцэрце мастацкай самадзейнасці Брэсцкай вобласці, які прайшоў 23—24 мая ў абласным Палацы культуры прафсаюзаў, узялі ўдзел дзве тысячы чалавек. Чаго там толькі ні было! І фальклорныя спевы, і танцавальныя ансамблі, і вакальныя гурты, і жартаўнікі-эксцэнтрыкі, і нават народныя цыркі. Набыткам рэжысёра варта лічыць тое, што гэтая вельмі разнастайная праграма была скампанаваная надзвычай удала, таму дванаццаць канцэртных гадзінаў праляцелі для гледачоў даволі хутка.

Цікава было назіраць, як самадзейныя артысты "хварэюць" адзін за аднаго, падбадзёрваючы калегаў выклікамі "Брава!", "Малайцы!", хаця, здавалася б, павінны былі адчуваць вострую канкурэнцыю паміж сабой. А яшчэ здзіўляла, як лёгка і арганічна пераўвасабляліся яны ў сваіх сцэнічных персанажаў, як палка і аддана жылі імі на сцэне.

Вакальны ансамбль "Мілавіца" з Брэста, "Юнацтва" з Баранавічаў, сталічныя "Рэха", дзіцячы гурт "Жалейка", калектывы "Фэст", "Кантрданс", "Палескія зоры"... Не будзем пералічваць усіх лаўрэатаў — іх вельмі шмат. Галоўнае, што ніхто на гэтым свяце мастацтваў не стаў чужым. І кожны стаў "зоркай" на свой адмысловы лад.

**Ірына БАРАВАЯ**

# Курапаты: цяжкая дарога да праўды

***Дзесяць гадоў таму, а дакладней — у нумары за 3 чэрвеня 1988 года газета "Літаратура і мастацтва" змясціла на сваіх старонках артыкул "Курапаты — дарога смерці". Ён не мог не звярнуць на сябе ўвагу чытача. Да гэтага заклікаў у сваёй лаканічнай прадмове і Васіль Быкаў, зазначыўшы, у прыватнасці, што аўтары публікацыі "здзяйсняюць свой людскі абавязак перад народам і перад гісторыяй". І чытач адкрываў з трывогаю невядомае яму да гэтага ўрочышча паблізу Мінска з назваю "Курапаты", даведваўся, што сюды, на абгароджаны шчыльным плотам з калючым дротам зверху лясны ўзгорак, некалькі гадоў, з 1937 па 1941, вазілі днём і ноччу на расстрэл людзей, што вазілі іх па гравійнай дарозе, якая вяла ад Лагойскага тракту на Заслаўе і якую мясцовыя старажылы, жыхары вёсак Цна-Ёдкава і Драздова называлі "дарогай смерці"...***

***У застойным, хоць, праўда, крыху ўжо разбуджаным гарбачоўскай перабудовай жыцці партыйна-савецкай Беларусі з'яўленне артыкула "Курапаты — дарога смерці" было нечым накшталт выбуху бомбы. Бадай, не перабольшым, калі скажам, што з адкрыццём Курапатаў — месца масавага забойства мірных, ні ў чым не вінаватых грамадзян — пачаўся новы адлік у справе асэнсавання сталінскай спадчыны, сталінскіх рэпрэсій.***

***Таму варта, як нам здаецца, вярнуцца да той чэрвеньскай, дзесяцігадовай даўнасці, публікацыі і глянуць на яе з пазіцый сённяшняга дня. На нашы пытанні адказвае тагачасны галоўны рэдактар тыднёвіка Анатоль ВЯРЦІНСКІ.***

**— Анатоль Ільіч, у канцы траўня 88-га года Зянон Пазняк (тады яшчэ мала каму вядомы) паклаў на ваш рэдактарскі стол рукапіс артыкула "Курапаты — дарога смерці". Вы былі яго першым чытачом, вам трэба было вырашаць яго лёс. Якім было першае ўражанне? Пра што думалася тады? Ці былі сумненні?**

— Удакладню, што артыкул быў напісаны ў сааўтарстве з Яўгенам Шмыгалёвым. Разам з ім, сваім сябрам і аднадумцам, інжынерам-канструктарам па прафесіі, Зянон Пазняк збіраў шмат гадоў (таемна, у вольны ад працы час) звесткі, запісваў сведчанні людзей, рабіў здымкі. Разам прынеслі артыкул у рэдакцыю.

Першае ўражанне? Паглядзеўшы рукапіс, зразумеў, што яго нельга чытаць у рэдакцыйнай мітусні, узяў з сабой дамоў і вечарам прачытаў, не адрываючыся і зусім забыўшыся пра рэдактарскі алоўак. Помніцца, уражвалі не толькі факты і жывыя сведчанні, але і выказаныя, што называецца, адкрытым тэкстам, на поўны голас азначэнні і высновы. У артыкуле ж, ведаеце, ставіліся кропкі над "і", гаварылася пра масавы характар рэпрэсій ("планавую эканоміку" іх), пра генацыд як найвялікшае злачынства супраць чалавецтва, пра неабходнасць раскайвання і пакарання.

У той вечар мне згадаліся запісаныя калісь, але ўжо паўзабытыя словы Энгельса пра тое, што ёсць два спосабы разлажыць маральна нацыю — пакараць невінаватых і не караць вінoўных.

Ніякіх сумненняў наконт таго, ці трэба друкаваць выпакутаваны аўтарамі матэрыял, вядома, не было. Калі б я не надрукаваў яго, я б ніколі сабе гэтага не дараваў. У гэткім настроі мяне падтрымалі і Мікола Гіль і іншыя супрацоўнікі газеты.

**— Публікацыя, наколькі памятаю, выклікала шок, атрымала шырокі грамадскі рэзананс як на Беларусі, так і за яе межамі.**

— Так. І тут асабліва помняцца два факты. Першы: звоняць з канцылярыі тагачаснага Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Таразевіча і ветліва пытаюцца, ці не знайшлі б мы экземпляр газеты з "Курапатамі..." для Георгія Станіслававіча. Другі факт: прыязджае тэрмінова ў Мінск карэспандэнт галоўнай па тыражы і ўплывовасці газеты Японіі "Асахі" і ў шматгадзіннай гутарцы з уласцівай японцам унікліваcцю распытвае мяне не толькі пра тое, як з'явілася публікацыя, хто яе аўтары, колькі ўсяго беларусаў загінула падчас сталінскага тэрору, але і пра нашую гісторыю, пра Беларусь увогуле. Збіраючыся адыходзіць, ціха, пранікнёна гаворыць: "Вашы Курапаты — страшнейшыя за нашу Хірасіму. Мы ж былі ў стане вайны з амерыканцамі, мы першыя напалі на іх, яны нам помсцілі за Перл-Харбар, а тут..."

Помню, што пасля той нялёгкай гутаркі я яшчэ горка падумаў: "Вось з якой нагоды, дзякуючы чаму даведаюцца ў Краіне Узыходзячага Сонца пра Беларусь. А не па тым факце, што першым расійскім консулам у Японіі і аўтарам першага японска-расійскага слоўніка быў не хто іншы, а беларус па імені Іосіф Гашкевіч".

**— Знаёмячыся з кнігай Г. Тарнаўскага, В. Собалева і Я. Гарэліка "Курапаты: следства працягваецца", я звярнуў увагу, што аўтары аддаюць належнае не толькі**

*(Працяг на стар. 12)*



*29 кастрычніка 1989 года. Дзяды. Курапаты.*



*Фота з архіва Анатоля Белага.*

# "Тата, што такое Курапаты?"

## СПРОБА ЎРОКА НА АДКРЫТЫМ ПАВЕТРЫ

Як ні круці, а думаць, гаварыць і пісаць пра ўсё трэба так, каб праз гады не сорамна было сыну глядзець у вочы. Пра ўсё... Пра Чарнобыль, які выгнаў нас з роднай рагінскай хаты ў Ветцы, пра бел-чырвона-белы сцяг, значок з выявай якога носіць Сцёпка "і ў белы дзень, і ў чорну ноч", пра Пазняка і "Малады Фронт" ("Тата, а хто з іх сапраўды за народ?"), пра апошнюю вайну, пра "паляванне" на ворагаў народа, пра Хатынь, Катынь і Курапаты...

Едзем сёння з сынам-сямікласнікам у Курапаты. Хоць і дажджліва, хоць і дамаўляліся, быццам, у парк Чэлюскінцаў, хоць і ехаць праз увесь горад. Але... Едзем у Курапаты... Усё жыццё трэба штосьці тлумачыць і даказваць. Сабе і сыну. Каб не памерла, каб доўжылася тое, на чым павінен мацавацца свет. Каб не блытацца ў радаводзе, каб не кідацца мітусліва са свята ў зацемкі, каб не жахацца ад уласных памылак, ужо некалі кімсьці ўпэўнена нароблених.

Мабыць, сапраўды існуе яна, генетычная памяць? Вось і не бачыў ніколі вайны, і не расстрэльвалі блізкіх сваякоў "сталінскія сокалы"-энкавэдзісты, але ўпарта сніцца іншым разам артабстрэл перад атакай; прачынаюся нечакана, адчуваючы жывёльны страх перад запозненым тэлефанаваннем ці стукам у дзверы; яшчэ і яшчэ раз спрабую ўявіць, пра што ж думаў вязень перад свежавыкапанай магілай; і ледзьве не дотыкам адчуваю холад нагана на ўласнай патыліцы, які амаль пяшчотна намацае ўтульную мішэнь для кантрольнага стрэлу; паміраю ў чарговы раз, каб раніцай зноў апрытомнець...

Жыў у матчынай вёсцы дзядзька Пушчай ("Пушчай сабе недарод, выкараскаемся якнебудзь!"), забралі цішком у трыццатых, бо на калгасным сходзе прапанаваў, доўга не думаючы: "Калі няма чаго есці касцам, дык давайце, таварышы, некалькі кароў пад нож. Усё роўна карміць іх няма чым!" І знік Пушчай, як і не было. Бо калгасны непахісны лад жыцця "шпіёнскім" учынкам запляміў, высокага даверу будаўніка камунізму не апраўдаў. Дзе, у якіх ГУЛАГах сканаў бясследна патомны беларус, хто ж зведае? Мабыць, якраз у Курапатах.

...Едзем. Я — для таго (вось банальная рэч!), каб застацца чалавекам, каб яшчэ раз раскаяцца за тых, хто катаваў і расстрэльваў. Сцёпка — пакуль з-за цікаўнасці, якая, спадзяюся, перарасце, пераўтворыцца ў пашану і смутак за нявінна загубленыя душы. Ад мяне сёння залежыць, каб так яно і было.

Расказваю яму па дарозе, што дзесяць год таму, 3 чэрвеня, надрукаваў "ЛіМ" артыкул Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва "Курапаты — дарога смерці", які ўпершыню абвесціў усёй Беларусі, усяму свету пра жудасныя злачынствы, якія дзейсніліся ў гэтым невялічкім сасновым ляску з 37-га па 41-ы. І дзень, і ноч па Лагойскай шашы імчалі да вёскі Зялёны Луг "чорныя вораны", збочвалі ўлева, цягнулі энкавэдзісты "ворагаў народа" за высокі плот з калючым дротам да загадзя выкапаных сярод маладзенькага сасняку магіл, расстрэльвалі і закопвалі. Разам з асабістымі рэчамі і неажыццёўленымі спадзяваннямі. Сялян, рабочых, інтэлігенцыю, мужчын і жанчын. За што? Ды прычыны для рэпрэсій заўжды знойдуцца, і якая розніца, трыццатыя на дварэ ці дваццаць першае стагоддзе на носе... Канвеер знішчэння, сапраўдная дарога смерці. Прайшлі па ёй, як перакананa сцвярджае Пазняк, трыццаць тысяч добрых людцаў. На чалавечых костках растуць зараз тыя сосны курапацкія... А напрыканцы кастрычніка 1989-га тысячы людзей пранеслі праз увесь Мінск сяміметровы Крыж Пакут. Уладкавалі яго тут, у Курапатах...

Ад канцавога прыпынку 53-га тралейбуса крочым да аб'язной дарогі. Правакуючы на шчырасць, пытаюся ў сустрэчнага мужчыны пенсійнага ўзросту: "Дык што рабілася тут больш за шэсцьдзесят год таму?"

— А што вагацца, — адмахваецца пажылы спадар, — яшчэ ж пазалетась пракуратура абвясціла, што зверствавалі ў Курапатах фашысты...

Сын, выслухаўшы "дасведчанага", са здзіўленнем пазірае на мяне. За хвіліну да гэтай сустрэчы абмяркоўвалі са Сцёпкам сакавіцкую публікацыю ў "Навінах", дзе археолаг Алег Іоў упэўнена ставіць кропку ўсім дыскусіям, пасля дзесяцігадовых навуковых дасьледаванняў сцвярджае: "У Курапатах ляжаць менавіта ахвяры сталінскага рэжыму".

— Дык каму, бацька, верыць?!

Ды, безумоўна, навукоўцам. Расказваю ў чарговы раз пра рэчы забітых, знойдзеныя ў раскопах. Даводжу, што ўсе яны савецкай ці польскай вытворчасці (сярод ахвяр — і жыхары Заходняй Беларусі). Нагадваю пра адшуканыя гільзы і нават кулі ад айчыннай зброі. Пра шматлікія сведчанні відавочцаў, у свой час сабраныя людзьмі сапраўды дасведчанымі і сумленнымі... Свае забівалі сваіх!

...Легкавік на абочыне. Знаёмімся з пасажырамі. Землякі, аказваецца, з Гомельшчыны. Гэтыя ўвогуле не ведаюць, што ёсць за Мінскам Курапаты — месца праклёну катам

*(Працяг на стар. 12)*

хлеба чыстага", "Спажа — хлеба дзяжа", "Прыйшла Гаспажа — у нас хлеба поўна дзяжа", "Пытае Ілля, ці гатова ралля, а Успенне — ці гатова насенне", "Спленне — цягні бульбу за карэнне", "Свята Прачыста — поле ўрачыста", "Прайшла Прачыстая — стала поле чыстае".

У некаторых выпадках, захапіўшыся прыкладамі, значна звужаеш значэнне свята. Не магу пагадзіцца з табою ў тым плане, што "гуканне вясны — язычніцкае свята", бо гуканне вясны ў народным разуменні — неаднаразовае дзеянне. Калі зазірнуць за смугу даўніны, то даволі лёгка пераканацца, што яно расцягвалася ў часе ад трох дзён да некалькіх тыдняў. Таму, мабыць, лепей было гаварыць пра тое, што гуканне вясны — гэта абрад.

Надзвычай багатым у цябе атрымалася Купалле. Ужо тое, што адзначалася яно ноччу, было звязана са шматлікімі прымхамі, легендамі, паданнямі, сярод якіх на першым месцы аповеды пра шуканне цудадзейнай папараць-кветкі, надавала яму дадатковую рамантычна-міфалагічную таямнічасць, выгадна вылучала сярод усяго народнага календара. На самай справе, — гэта было свята моладзі, бо сталым людзям адводзілася месца толькі "для збору лекавых каранёў, кветак-красак ды для ўсемагчымых гаспадарчых засцярог". А для маладзейшых яно было яшчэ і часінай, калі "праганялі ведзьму": "Шумам і песнямі, якія спявалі дзяўчаты каля вогнішча, каля жыта, на полі, праганялі ведзьму, праганялі яе з поля. З гэтай жа мэтай кідалі ў жыта галавешкі ад купальскага вогнішча, абтырквалі поле асінавымі галінкамі, апырсквалі святою вадою. Лічылі, што ў гэтую ноч Прарок Ілля дапамагае людзям у барацьбе з ведзьмамі і засцерагае ад іх злых чараў сялянскія палі".

Што датычыцца другой часткі кнігі "Сямейная традыцыйная абраднасць беларусаў", то гэтай тэмай ты займаўся не адзін год і ведаеш у гэтым плане болей за мяне. Праўда, мне падалося, што падраздзел "Служы, сынок, верна свайму ты народу" неяк не ўпісваецца, "выбіваецца", з агульнай кампазіцыі. І стаіць ён няўдала: паміж Пеpазовамі і апісаннем роднай хаціны, і, калі меркаваць, што астатнія абрады, звязаныя з сямейным жыццём, сягаюць у перыяд язычніцтва сваімі каранямі, то не падыходзіць і па часавых патрабаваннях.

Мае заўвагі, братка, маюць вузкапрафесійную спецыфіку, для масавага чытача яны былі б незаўважанымі, але мы з табою заўсёды гаварылі шчыра...

Добрым словам згадаю і супрацоўнікаў выдавецтва "Вышэйшая школа", якія выдалі гэтую цікавую і патрэбную ўсім нам кнігу.

Вось і пагаварылі. Прабач, што завяршаю нашу размову як і пачынаў, радком народнага хаўтурнага галашэння: "Брат жа ты мой, Валодзечка..." Але мы з табою — фальклярысты.

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ**

---

адчуў на плечах І дотык да шчакі — шчакою". Маці В. Сідарэнка страціў у сталым узросце, бацьку ж так і не пабачыў. А якім сынам ён быў, дастаткова такога факта. Яшчэ ў 60-я гады, як успамінае Д. Чараднічэнка, Васіль папрасіў яго зняць на фоне бацькавага даваеннага здымка, каб аказацца поруч.

У кнізе "Адлегласць" і ўражваюць найперш вершы, у якіх прама ці апасродкава В. Сідарэнка закранае вобраз блізкіх яму людзей. Па-свойму непаўторныя і творы, у якіх прысутнічае хараство прыроды — беларускай і ўкраінскай. Але нязменны яшчэ адзін матыў — свайго роду "палавінчатасці душы". Калі ў адным са сваіх вершаў ён назваў сябе "сынам Беларусі, сынам Украіны", дык ніколькі не грашыў супраць ісціны. Але адно засведчыць гэта і іншая справа — разабрацца ў самім сабе. І тут куды цяжэй. Бы той лісток, сарваны з дрэва, ён, падхоплены жыццёвымі вятрамі, аніяк не мог знайсці пастаянства:

***Душа мая быццам бы разрываецца***
***І палавініцца быццам —***
***Плача адна на станцыі,***
***Другая ў зеніце.***

Не менш шчырае прызнанне ў вершы "Запалкі":

***Мяне не спакушаюць этыкеткі,***
***Усё роўна мне — "Казбек" ці "Аганёк",***
***Бяру заўжды любыя цыгарэты,***
***Запалак беларускіх карабок.***
***Гавораць мне, што я куру багата,***
***Я ж, можа, і куру з прычыны той:***
***Абы рукою дрэва мне пакратаць,***
***Што ў Беларусі вырасла маёй.***

Запаветным жаданнем В. Сідарэнкі было такое: "Каб не збіцца са сцежачкі да Беларусі". І ён не збочыў з дарогі гэтай. І прыйшоў да Беларусі, вярнуўся да яе сваёй кнігай. Але яго вяртанне — гэта і ўчынак-напамінак тым, хто вяртання не жадае, не жадае прызнаваць сваё, беларускае.

**Юрась АСТАПЧУК**

---

КНІГАРНЯ

# У вясёлым карагодзе

Мікола Чарняўскі сваю першую кнігу для маленькіх "Дзе лета канчаецца" выдаў яшчэ ў дваццацігадовым узросце. З таго памятнага для яго 1963 года колькасць іх наблізілася да дваццаці, калі не лічыць кніг "дарослых", а таксама зборнікаў сатыры і гумару. Ды па-ранейшаму Мікола Міхайлавіч адчувае сябе найбольш упэўненым у любімай творчай стыхіі. Ён дзіцячы пісьменнік па прызванні. Пацвярджэнне гэтага — і яго новая кніга "Сеў Аўторак у аўто...", выпушчаная НПЧ "Фінансы, улік, аўдыт".

Кніжка невялікая памерам, з уменнем і густам аформленая мастаком Яўгенам Ларчанкам. Яна, як і папярэднія зборнікі паэта, дасціпная і вясёлая. М. Чарняўскі па сутнасці жыве ў свеце дзяцей, добра ведае іх запатрабаванні, умее глядзець на наваколле іхнімі вачыма, надзелены багатай фантазіяй — як і тыя, для каго і пра каго піша. У выніку і ўзнікае тое паразуменне, якое і павінна быць паміж аўтарам і маленькім чытачом (ці слухачом) — бо абодва яны з краіны маленства.

У кніжцы змешчаны дзве вясёлыя, займальныя гісторыі — "Дзівосны гадзіннік" і "Вясёлы каляндар". У першым выпадку М. Чарняўскі знаёміць дзетак з часавымі паняццямі — секунды, хвіліны, гадзіны, суткі... У другім — расказвае пра дні тыдня, пра кожны з дванаццаці месяцаў.

Падобныя сюжэты ў дзіцячай літаратуры традыцыйныя, і аўтара падсцерагала небяспека паўтору. Але М. Чарняўскі не пайшоў праторанай сцяжынай. Пра ўсё ён гаворыць па-свойму, знаходзячы новы сюжэтны паварот. Асабліва вылучаецца "Вясёлы каляндар". Вось, скажам, што напісана пра Аўторак:

***Сеў Аўторак у аўто:***
***— Не дагоніць аніхто.***
***Стаў крычаць на Сераду: —***
***Не тапчыся***
***спе-ра-ду-у!***
***Не лічы, сястра, сарок,***
***Бо наеду незнарок.***
***Тармазамі скрыгатнуў —***
***Бацька хмура***
***Вус крутнуў,***
***Папярэдзіў ліхача:***
***— Дам за гэта плескача!***
***З той пары ці бачыў хто:***
***Каб ён ездзіў на аўто?***

Бацька ж гэты строгі — сам Тыдзень. Ён і сочыць ўважліва за сваімі дзецьмі-днямі — "трох сыноў меў дзядзька Тыдзень і дачок чацвёра меў". А ёсць жа яшчэ і дзед, які Годам завецца. Ён таксама ўважліва сочыць, як паводзяць сябе ўнукі:

***Сталі побач —***
***Тыдзень,***
***Тыдзень.***
***Сталі поплеч —***
***Тыдзень,***
***Тыдзень...***
***І дзівіўся кожны шчыра***
***Быў адзін,***
***А ўжо***
***ЧАТЫРЫ!***

У гэткім жа духу ідзе гаворка ў "Вясёлым календары" і далей, ажно пакуль сам Снежань не запрашае ўсіх "на карагод. Заўтра свята — НОВЫ ГОД!"

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

ЧАСОПІСЫ

# Жывым — жывое?..

Даволі распаўсюджаная думка пра блукаючыя з эпохі ў эпоху, з літаратуры ў літаратуру сюжэты на гэты раз знайшла пацвярджэнне ў новай аповесці А. Федарэнкі "Цугцванг" ("Полымя", 1998, N 3). Нягледзячы на цалкам зразумелыя адрозненні ў знешняй атрыбутыцы твораў, у пэўным сэнсе перад намі сучасны беларускі варыянт "Пікавай дамы" А. Пушкіна. Уяўляецца не лішнім папярэдзіць, што ў дадзеным выпадку немэтазгодна шукаць поўных аналогій паміж героем А. Федарэнкі, відаць па ўсім, філолагам, які адпаведна модзе асільвае маркетынг і менеджмент, і пушкінскім разважлівым інжынерам Германам, у якога "профиль Наполеона, а душа Мефистофеля". Ды і беднай Лізанькі ў "Цунгцвангу" нібыта не хапае. Праўда, адсутнасць старой 97-гадовай графіні Ганны Фядотаўны ў сюжэце нашага сучасніка кампенсуецца вобразам крыху маладзейшага, хоць і яму далёка за 70, але не менш загадкавага ад яе былога зубнога тэхніка, шахматнага тэарэтыка і недыпламаванага псіхолага-маніпулятара Івана Адамавіча.

Галоўнае — у сугучнасці канфліктаў, падабенстве драматычных сітуацый невялікіх аповесцей. Картачны сакрэт і прыцягальныя залатыя злiткі і ёсць тымі дэманічнымі ўсёпаглынаючымі сіламі, якія амаль дэтэктыўна закручваюць і развіваюць сюжэтную інтрыгу абодвух твораў, адначасова з'яўляючыся д'ябальскім выпрабаваннем для іх галоўных герояў.

У аповесці А. Федарэнкі асноўная калізія "наколькі яна здаецца на першы погляд неверагоднаю, настолькі ж яна заманлівая". Пушкінскі Герман, захапіўшыся нечакана для самога сябе ідэяй хуткага ўзбагачэння, бо раней нават і не думаў "жертвовать необходимым в надежде приобрести излишнее", адчувае над сабой уладу невядомай сілы, цяжка вытлумачальнае прыцягненне да графіні і яе дома. Лізавета Іванаўна пазней даволі дакладна акрэсліць прычыну спачатку не зусім зразумелых паводзінаў героя: "Деньги, — вот чего алкала его душа!"

Аб прыстойным жыцці, уласнай кватэры, неабходным для бізнесу першапачатковым капітале марыць герой А. Федарэнкі. Здаецца, нічога звышістотнага ён не жадае — толькі больш-менш адпаведных часу ўмоў існавання. Акрамя таго, такая прагматычная філасофія нібы і не патрабуе апраўдання. Кожны на сабе не раз правяраў: "...калі не трэба лічыць праклятыя рублі, калі ў кішэнях шастае "зеляніна" даляраў, — элементарна адчуваеш сябе Чалавекам!.."

Падобнай сентэнцыяй А. Федарэнка ніколькі не змяншае маральны патэнцыял сённяшняга героя. Такі ўжо ён, наш сучаснік. Адукаваны і не сказаць каб бяздзейсны, часта беспрытульны і часткова беспрынцыпны, калі тое магчыма — дэфармаваны летуценнік, які ніяк не адвучыцца спадзявацца на некага і нешта. У тым ліку — на бацькоў, цётак і дзядзькаў, таямнічыя цуды старых графіняў і Адамавічаў. "Вы ж, цяперашнія, з усяго карысці хочаце, нават з чужой смерці..." Сучаснаму герою не хапае рашучасці Германа, каб адкрыта, хай з незараджаным пісталетам, даказваць сваё права на валоданне таямніцай ("Я не мот, я знаю цену деньгам", — імкнецца давесці той графіні). Тым не менш, ён верыць у цуд і ў тое, што менавіта ён, а не нейкі там Крывіцкі, заслугоўвае права на дармавыя грошы: "Мне здавалася, толькі я, і ніхто больш у свеце, заслужваў Адамавічава золата".

Сённяшні сярэднестатыстычны герой не забівае дзеля ўзбагачэння. Размова не ідзе пра злачынцаў ці іншых сацыяльна небяспечных тыпаў. Але ён здольны для дасягнення сваёй мэты патрэбны час прыкідвацца, крывіць душой, выносіць прыхаваныя ці адкрытыя здзекі суб'екта спакусы, бясконца выконваць неабходныя яму ці яўна бязглуздыя загады. Як тое ні падасца дзіўным, Адамавіч схільны аддаць перавагу не нашаму паслужліваму герою, а простаму, звычайнаму, хоць і пустазвону, Віталю Крывіцкаму. Свайму шахматнаму саперніку ён так тлумачыць уласны выбар: "...ты злы, хітры, учэпісты і ты даб'ешся свайго".

Здавалася, што пасля чарговай няўдачы гэты ўчэпісты дарэшты разлуецца, ацвярэзіцца і зноў, як і раней будзе разлічваць толькі на сябе. Але спакусы тым і моцныя, што валодаюць здольнасцю нараджацца нанава. Праекцыя прыдуманага Адамавічам рашэння двухходовай шахматнай задачы на сакрэт з прыхаванымі залатымі зліткамі нечакана прынесла яго "ахвяры" вынік-разгадку. Але герой, крыху спазніўшыся, не паспявае скарыстацца ёю. Само жыццё прымушае яго зрабіць цугцванг. Больш дакладна, зрабіць не проста нявыгадны, але і няправільны ход, сарваўшы злосць за перажытую няўдачу на тым жа Віталіку Крывіцкім у выглядзе "лёгкіх цялесных пашкоджанняў" (таму хоць кватэра Адамавіча засталася) і трапіўшы пад следства пасля заявы пацярпелага.

Аповед героя пра ўсё перажытае і адчутае ім — своеасаблівае слова пакаяння перад следчым, адпаведна вытрыманае стылёва. Яно ставіць сваёй мэтай зменшыць абвінавачванне, якое будзе прад'яўлена падсуднаму, а таксама жаданнем прадставіць сябе ў больш выгадным святле. Абраная форма падачы матэрыялу — уяўнага дыялога і фактычнага маналога — абумоўлівае дынамізм і лаканічнасць яго выкладкі. Нагаданыя адметнасці асабліва адрозніваюць твор ад папярэдніх, крыху расцягнутых, аповесцей А. Федарэнкі. Дзевяць сціслых раздзелаў "Цугцванга" ахопліваюць падзеі прыкладна на працягу аднаго месяца і ў фінале, пасля трохмесячнага перапынку, утрымліваюць развязку ўнутранага канфлікту.

Знешняга сюжэтнага завяршэння твор не мае. Мы не ведаем, якую меру пакарання атрымае герой. Але адно відавочна: у адрозненне ад Германа ён не закончыць сваё жыццё ў вар'яцкім доме, трапіўшы туды ад пакут сумлення ці ад жаху прывідаў сваёй пікавай дамы — Адамавіча. Вельмі ўжо аддана прамаўляе ён да грамадзяніна следчага, вельмі абдуманыя яго прызнанні. Гэтак жа знаходліва робіцца і акцэнт на раскайванні. Што ні кажыце, а ніякі цугцванг не ў стане збіць з панталыку ўчэпістага да жыцця сучасніка. "Я ніяк не магу звыкціся з тым, што мог бы атрымаць усё, а па ўласнай дурасці застаўся ні з чым".

Калі ў гэтым прызнанні і заключаюцца згрызоты сумлення героя, то ці ёсць яно ў яго наогул? Пытанне не рытарычнае. Асабліва калі ўзгадаць таго ж А. Пушкіна. "Две неподвижные идеи (у нашым выпадку — мець ці не мець. — **В. Ш.**) не могут вместе существовать в нравственной природе, так же, как два тела не могут в физическом мире занимать одно и то же место".

Добра, калі да нечага важнага ў душы дадаецца нешта ў кішэні. Кепска, калі жаданне мець любым шляхам пераадольвае прагу духоўна дасканалага і маральна ўзважанага. Жывое аднадзённае і жывое неўміручае — рэчы розныя. Дык што мы маем на ўвазе, калі гаворым: "Жывым — жывое"? Мабыць, кожны сваё.

***Жывое не трымаецца канца,***
***Яго рухомасць каранямі ў вечным.***
***Жывым — жывое. Не для забыцця,***
***Для спасціжэння глыбіні бязмежжа.***

Думаецца, што праз адлюстраванне перавагі ў нашым грамадстве жывога матэрыяльнага А. Федарэнка шляхам ад адваротнага прымушае нас з усёй праўдзівасцю паглядзець на сябе збоку і шчыра пашкадаваць аб здрадзе жывому духоўнаму. Бо калі-небудзь гэта абавязкова станецца прычынай бязвыхаднага, жалезнага цугцванга.

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

*г. Гомель*

---

# Каханне прыходзіць па вясне

Рэдакцыя часопіса "Беларусь" вырашыла майскі нумар прысвяціць акурат гэтай тэме — тэме кахання. У ім дамінуюць матэрыялы, якія ўслаўляюць каханне, прыгажосць, вернасць, адданасць, але ёсць і тыя, якія закранаюць вострыя праблемы, звязаныя з гэтым. Пра ўсё гэта — публікацыі Г. Грыгаровіч "Іх абвянчала вайна", В. Чаркашынай "Будзь блаславёнай, Любоў!", І. Кабяковай "Не забівай мяне, мама...", І. Баравой "Маленькае ўзаконенае забойства", Л. Анісавец "Шлюб без разводу — рабства...", І. Ждановіча "Халасцяк з белай лілеяй", А. Гібка-Гібкоўскага "Анатомія кахання, або Спроба дыялогу пра Вечнае", а таксама з апавяданнямі В. Шымановіч "Лялька і гаспадар", І. Ждановіча "Хвароба ног", А. Федарэнкі "Без назвы". А Я. Сіпакоў ("Паважаю і шаную, як багіню") піша пра каханне неўміручага А. Міцкевіча, тут жа — некалькі яго вершаў у перакладзе М. Танка, Н. Тарас, Я. Семяжона, Ю. Гаўрука.

Г. Багданава ("Нясвіжская рапсодыя ў жывапісных варыяцыях Алены Юр'евай-Піскун і Юрыя Піскуна") знаёміць з творчасцю гэтых двух нашых мастакоў. Друкуюцца таксама гісторыка-краязнаўчы нарыс І. Масляніцынай "Кій — герой усходніх славян", "Слова пра мага" І. Калюты, у якім расказваецца пра фотамастака В. Жыліна, нядаўна ўдастоенага прэміі Саюза журналістаў за лепшыя фотаработы года, рэцэнзія на фотаальбом "Валянцін Елізар'еў", іншыя матэрыялы.

## Прага душэўнасці

Яшчэ адно імя з'явілася на паэтычным небасхіле — сакавіцкім зборнікам "Бібліятэка часопіса "Маладосць" стала кніжка вершаў Віктара Шацілы "Пакуль не згасне рэха..." Як ні дзіўна, але пра гэтага аўтара аматары літаратуры дагэтуль амаль не чулі.

Аўтар прадмоўкі да зборніка Віктар Гардзей, адзначае, што перад намі "паэт са сваім бачаннем свету, свежымі мастацкімі вобразамі, непадробным, шчырым пачуццём".

А тое, што найбольш хвалюе В. Шацілу відаць і з эпіграфа да кніжкі, якім сталі неўміручыя радкі Максіма Багдановіча:

*Беларусь, Беларусь!*
*Агнём імя тваё мне гарыць...*

У вершах В. Шацілы тэма Беларусі, правільней — вяртання да Беларусі набывае своеасаблівае гучанне. Паэт менш за ўсё схільны да адкрытай публіцыстычнасці. Яна калі і прысутнічае, дык так сказаць унутрана. Лірычны герой прамаўляе набалелае душой і сэрцам. А ў выніку праз, здавалася б, лірычны настрой і прабіваецца, як кволенькія сцяблінкі травы з-пад снегу, пачуццёва-трывожны і шчымліва-засяроджаны роздум.

Як для прыкладу, у вершы "Там далёка":

*Там далёка, за лютай завеяй,*
*Дзе сыходзяць у нетры снягі,*
*Беларусу апошняй надзеяй*
*Усміхаюцца зорна лугі.*
*Беларусу, які пакарыўся,*
*Перайначыў дарогу жыцця.*
*Беларусу, які прыжаніўся,*
*Ды не зведаў яшчэ пачуцця.*

Тым не менш пачуццё аптымізму не пакідае лірычнага героя, з якім жа, канечне, нельга не атаясамліваць самога аўтара:

*Але ўсё ж за кіпучай завеяй,*
*Дзе сыходзяць у нетры снягі,*
*Хоць апошняй, хоць сціплай надзеяй*
*Усміхаюцца сэрцу лугі.*

Віктар Шаціла выкарыстоўвае розныя формы верша. Ён піша трыялеты, актавы, тэрцыны, рандо...

Ёсць што ў кніжцы пачытаць і ёсць магчымасць парадавацца за яе аўтара. Застаецца дадаць, што В. Шаціла нарадзіўся ў 1973 годзе ў вёсцы Калоднікі Дзяржынскага раёна. Працуе паштальёнам у Мінскай дыстанцыі сігналізацыі і сувязі. З'яўленню гэтай кнігі дапамог начальнік Беларускай чыгункі Яўген Валадзько.

А. М.

## Чудзін — вёска паэтычная

"45" — так назваў сваю новую, чацвёртую па ліку кнігу паэзіі Алесь Каско. "45" — гэта сорак пяць вершаў аб Радзіме, Сусвеце, чалавеку. Гэта роздум пра вечнае і мімалётнае, пра сутнасць жыцця і месца чалавека ў ім. Сам А. Каско так акрэслівае свае памкненні ў паэзіі: "Большасць вершаў — плён нечага іншага, чым лёгкі "огнь". Роздуму, бадай, і найчасцей — роздуму скрушнага, а то і роспачнага: пра Час, які не "старэе" і не мяняецца — колькі стварае, столькі ж і нішчыць; пра мой Народ, які на дарозе з сівой даўніны параастрачваў свае доблесці дый забыўся на іх; пра Чалавека, гэтага "вянца прыроды", які, між тым, схіляе да найбольшай спагады і жалю, бо з усяго жывога адзін ён усведамляе і пакуты свае, і сваю смяротнасць".

А новая кніга — заўсёды свята. І для паэта, і для яго чытачоў. Таму яго землякі, жыхары Ганцаўшчыны, з такім інтарэсам чакалі сустрэч з А. Каско. І яны адбыліся. Спачатку — у вёсцы Чудзін — на радзіме паэта. У час вечарыны, якую вяла супрацоўніца Ганцавіцкай цэнтральнай бібліятэкі А. Лемс, паэт цытаваў вершы з новага зборніка, дзяліўся творчымі планамі... У вечарыне прынялі ўдзел паэт М. Пракаповіч, настаўніца Л. Доліч, дырэктар школы І. Мароз і іншыя. Гучалі народныя песні, жарты. Прысутныя змаглі набыць кнігу "45", атрымаць аўтографы. Прайшла прэм'ера гэтай кнігі і ў Ганцавіцкім гарадскім Доме культуры. На сустрэчы гучалі песні ў выкананні народнага калектыву "Талака", саліста С. Місткова, самадзейнага кампазітара І. Бондара.

Асобна хочацца сказаць яшчэ аб адной нашай госці. У 1997 годзе выйшаў першы зборнік паэзіі Ірыны Дарафейчук "Сцяблінка на лязе" ("Бібліятэка часопіса "Маладосць"). Аўтарка жыве і працуе ў Полацку. Але, як і А. Каско, нарадзілася ў вёсцы Чудзін. Аднак жыла там нядоўга і потым ні разу не была на сваёй "малой Радзіме". І вось чаканая сустрэча. І прэм'ера кнігі. Па прызнанні І. Дарафейчук, ёй вельмі хацелася пабываць на Ганцаўшчыне: "Я заўсёды з гонарам гаварыла, што нарадзілася ў Чудзіне, у вёсцы з такой дзіўнай назвай. Яна ўвесь час мяне вабіла да сябе". А прадмову да кнігі напісаў наш зямляк, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа Віктар Гардзей. І. Дарафейчук — чалавек увогуле таленавіты. Яна піша музыку да сваіх вершаў, іграе на гітары, спявае. І па-майстэрску чытае свае вершы.

Т. ВАЛУЕВІЧ,
дырэктар Цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Ганцавіцкага раёна

ПАЭЗІЯ

Людка СІЛЬНОВА



# "Зачараваная краіна"

## Дамок у лесе

*Толькі*
*бадзяга*
*смутны*
*Увойдзе*
*у гэты*
*дом...*
*Ніякіх групавых экскурсій.*
*З калодзежа піцця нагбом!*

*Толькі*
*бадзяга*
*смутны,*
*Толькі*
*стомлены*
*дух...*
*Прыляжа на ложак з рутаў —*
*І спыніцца вечны рух.*

## Зачараваная краіна

*Зачараваная краіна,*
*Асмужаная старана...*
*У страшных казках не загіне,*
*Хоць гэтак — будзе жыць яна!*

*"Зачараваная краіна..." —*
*Ён слухаў бабчын цьмяны шэпт.*
*Яе героі й гераіні*
*Ўяўленні — разбівалі ўшчэнт!*

*Сама ж празрыстая, як дрэва,*
*Перад пачаткам маразоў,*
*Смуглявы твар, сляпая вера,*
*Што ўсё — паўторыцца наноў.*

*Мінуўшчына не памірае,*
*Не адыходзіць на спачын —*
*Па свеце скругленым гуляе,*
*Як быццам статак аблачын.*

*(Якога прывіднага краю*
*Прыбіўся вобраз-карабель?*
*З якіх амерык ці аўстралій*
*Прымаем сёння мы людзей?..)*

*Зачараваная краіна...*
*Задымленая старана...*
*Душа — вадой у травы хлыне*
*З рудога, цяжкага збана.*

## Вогненны воран

*Вогненны воран*
*На чорнай сасне*
*Сённяшняй ноччу*
*Прымроіўся мне.*

*Важна, па-царску*
*Воран сядзеў,*
*Быццам бы казку*
*Каркнуць хацеў.*

*Вогненны воран...*
*Гэта сасна*
*Трэшчынай лёсу...*
*Часу — няма.*

## "Поле"

*На нашым зялёным ложку —*
*Рамонкі, званочкі, валошкі...*

*Мы згубіліся ў дзікім полі,*
*Дзве стралы, два індзейцы вольных.*

*І ніхто ў высокай траве*
*Нас не ўбачыць, не пазаве.*

*— Любая, у тваіх валасах*
*Заблудзіўся мядовы пах...*

*— Мілы, па тваёй назе*
*Божая кароўка паўзе...*

## Вуснае кіно

*Нашае каханне —*
*вуснае кіно.*
*Бо не на экране —*
*ў галаве яно.*

*Нехта прамаўляе*
*ў вечны мікрафон,*
*Мроіць, выдумляе*
*гэту казку-сон;*

*Не адно стагоддзе*
*і не толькі нам*
*Зноў і зноў даводзіць...*
*ісціну? падман?*

*Зноўку гераіня*
*з кубкам у руцэ,*
*Пацалунак стыне*
*ружай на шчацэ.*

*І нясуцца коні,*
*і дрыжыць зямля...*
*Вечная пагоня!*
*Вечная гульня!*

Міхась БАЯРЫН



*1.*
*у гэтай пустэльні жыццё*
*паступова скарэла*
*пад белымі промнямі лета загінула*
*з марай*
*пра кроплю вады у бязмежжы*
*пякучага сквару*
*заснула ў пяшчаных абдымках*
*паўднёвага ветру*
*калі ты не прыйдзеш*
*яно не прачнецца ніколі*
*2.*
*бязвокая цемра глынае шэпт галасоў*
*тут цягнікі не спыняюцца і сутаргова*
*сіляцца і паміраюць*
*на доўгім поўразе рэек*
*вандроўнікам у нікуды*
*не прадаюць квіткі*
*нешта нагадвае гэтая песня кола*
*смех ці плач тралялёначкі у бясчасоўі*
*парожніх таварных вагонаў*
*разгубленае маны*
*3.*
*узімку ў пакоі набраклым*
*гукамі фартэпіяна*
*букетамі красак падважаных*
*па кутках*
*абуджаецца муха і на парожнім стале*
*шыпы закарэлых ружаў хаваюць памяць*
*пра кроплю крыві што пакінуў*
*дзявочы палец*
*4.*
*яна прачынаецца ўлетку*
*ў зімнай старой хаціне*
*ў фальварку каля Нясвіжа зусім адна*
*адхінае фіранкі і на працягу гадзіны*
*сузірае світанне моўчкі як і заўжды*
*ў чаканні яго вяртання*
*нязбытна марным*
*выкідае завялыя кветкі жаданні думкі*
*ўсміхаецца паражнечы і так штодня*
*скончваецца існаванне*
*5.*
*у такія часы яшчэ стомлена*
*крочаць яны*
*па пажухлай траве маркотных*
*сівых далін*

Леанід ПРАНЧАК

# Радзіма, Галгофа, Надзея

●

*Каханая, тут не Парыж.*
*Ды ўсё ж мне тут добра і зорна.*
*І я свой бярозавы крыж*
*Цярпліва нясу і пакорна.*

*Такая настала пара...*
*Я з доляй сваёй не змірыся.*
*За што гэткі здзек — выбіраць:*
*З табой быць альбо з Беларуссяй?*

*Я тут, а душа мая там.*
*І мы паасобку, не разам.*
*І сэрца маё папалам*
*Раскроена болем і часам.*

*Ад мараў аскепкі і друз.*
*Мой голас ад болю нямее.*
*Ды ўсё ж — тут мая Беларусь:*
*Радзіма, Галгофа, Надзея...*

●

*Ноч у прадчуванні адкрыцця,*
*У чаканні болю трапяткога...*
*Дай свабоду сіле пачуцця*
*І адчуй сябе ва ўладзе Бога...*

*Падаруй мне першы дзень вясны —*
*Свята незямных і добрых духаў.*
*Падаруй мне радасць навізны*
*Пацалункаў,*
*Позіркаў,*
*І рухаў...*

●

*Ад ласкі тваёй нецвярозы —*
*За дробязь цябе раўнаваў...*
*Бялелі на ўзлеску бярозы,*
*Бялела мая галава.*

*У свеце бяздушна-суровым*
*Тваёю малітвай я жыў.*
*А час цягніком манеўровым*
*Сігналіў, каб я паспяшыў.*

*Прывык да апрыкрай няволі.*
*Мой шлях запляла мурава...*
*Цягнік даганяць не дазволіць*
*Сівая мая галава...*

●

*Хмеліць ранне чысцінёй,*
*Ападаюць зоры...*
*Словы ціхія за мной*
*Рэха не паўторыць...*

*Я нічога не забыў,*
*Я навек запомніў:*
*Вечны скепсіс і наіў,*
*Цёплыя далоні...*

*Час закрэсліць успамін,*
*Светлы і гаючы.*

*Ты адна і я адзін:*
*Крыўдна і балюча...*

*Здрыганецца цішыня...*
*Гэта дзесьці плача*
*Ціха-ціха птушаня —*
*Немаўлятка наша...*

●

*Неспатольная прага дабра,*
*Непазбыўная цяга да волі...*
*Вечны госць — ні кала, ні двара,*
*Ні любові, ні шчасця, ні долі.*

*Немагчымасць тваёй цеплыні.*
*За акном і на сэрцы — нягода.*
*І бясконцыя шэрыя дні...*
*Ні любові, ні шчасця...*
*Свабода!*

●

*Каб ведаў я, што гэта Вы былі, —*
*Усё было б не так, было б іначай.*
*Цяпер душа, зняверaная, плача...*
*Каб ведаў я, што гэта Вы былі!*
*Сустрэцца зноў ці выпадзе калі?*
*Здаволюся спагадаю лядачай.*
*Каб ведаў я, што гэта Вы былі, —*
*Усё было б не так, было б іначай.*

●

*Нашы тайныя сустрэчы —*
*Тэма злосным плеткарам.*
*Хай аголеныя плечы*
*Слепяць вочы ліхтарам.*

*... Высахла натхненне,*
*скончыўся раман.*
*У адно імгненне*
*скурчыўся экран.*

*Дык няхай ліецца*
*страшнае віно!*
*Не прымай да сэрца:*
*вуснае кіно...*

## Каляндная казка

*Анёл уструбіў узвышана*
*На бліскучай трубе.*
*"Палюбі бліжняга,*
*Як самога сябе..."*

*І белых сняжынак прыгаршчы*
*Кінуў ён на зямлю...*
*"Палюбі бліжняга..."*
*Менск. Каляды. Люблю.*

## Спроба канца

Когда б вы знали, из какого сора
Растут стихи...
Ганна Ахматава

*Не, вершы растуць не "са смецця",*
*а з болю:*
*Няўжо не пабачымся, мілы, з табою?*

*Няўжо паміж намі*
*ўсяго толькі "смецце",*
*Якое разносіць па вуліцах вецер?*

*На досвітку ўстанеш*
*з далёкай пярынкі...*
*Я — выкручу вершык апошні*
*з машынкі...*

*Няўжо гэта "творчае смецце" было —*
*Пісьмы, размовы і вуснаў цяпло?*

*...Губляючы важкасць, шапну паэтэсе:*
*"Няпраўда... няпраўда...*
*яны — не са смецця..."*

---

*баязлівыя зіркі вандруюць*
*на ўсхонах цяснінаў*
*і доўгай здаецца дарога ў блукальні*
*твайго лістападу*
*але неўнікнёна іх статкі сыходзяць*
*хвалямі з гораў*
*на далоні азёраў дзе спіць*
*пяшчота вады*
*срэбная воўна мараў*
*злятае бы першы снег*
*з рухам ляза прачнецца чырвоны*
*ядва б самоты*
*і світанне сустрэне*
*крышталны смех*
*б.*
*абуджаецца птушкай высока ў нябёсах*
*не пазнае краіны*
*разумее што статак далёка*
*што крылы нясуць на поўнач*
*пазней нечаканы стрэл запаўняе*
*слых а раптоўны дотык*
*сэрца хоча заснуць і не паспявае*

---

*Хай наўмыснікі пляткараць,*
*Як няма чаго рабіць...*
*Ім не суджана і марыць*
*Гэтак сонечна любіць!*

●

*До слоў! Было іх многа.*
*Кахаю і грашу.*
*Нікога і нічога*
*Затое не прашу.*

*Нічога і нікога!*
*Павер маёй мальбе:*
*Кахаю толькі Бога.*
*І крышачку — цябе...*

●

*У гэтым горадзе чужым,*
*Які мне быў учора блізкім, —*
*Туман і дым, туман і дым.*
*І спакаваныя валізкі.*

*У гэтым горадзе чужым*
*Я выпадковы і нязнаны.*
*Мне забыццём бінтуюць раны*
*Туман і дым, туман і дым.*

*Туман — абложны, дым — густы.*
*Я забываю ўсё благое.*
*Туман і дым — маё былое.*
*Маё цяперашняе — Ты!*

*У гэтым горадзе чужым*
*Больш заставацца немагчыма.*
*Туман і дым — мая радзіма.*
*І Ты адна у ёй — не дым...*

ПРОЗА

Сяргей АСТРАЎЦОЎ



# ЗОРКА БЭТЛЕЭМА

Быць выгнаным з працы і апынуцца на вуліцы без лішняга рубля ў кішэні... Што тады магло стаць яшчэ больш гвалтоўнай падзеяй у жыцці простага савецкага чалавека? Каб хоць сам ляпнуў дзвярыма, дык меў бы цьмянае, але пачуццё сваёй над імі перавагі. А так шукай сабе, Кудзелка, на здароўе працу з воўчым білетам у кішэні. Ці што знойдзеш? Да таго ж яшчэ ў мястэчку, дзе кожны адзін аднаго ведае.

Ён штосьці спрабаваў быў давесці, спасылаўся на прыклад "паражэнства" бальшавікоў у чатырнаццатым годзе, але яго не зразумелі, не сталі нават і слухаць. Толькі даў лішні козыр у рукі зацятых сваіх непрыхільнікаў.

"Дарма ты гэтак, — казаў потым хто-ніхто смялейшы, калі нікога больш не было побач і іх не маглі бачыць разам. — Ды Бог з ім, з дэсантам на Браціславу, даўся ж ён табе. А вось Леніна і бальшавікоў зусім не варта чапаць. Гэта — святое".

Прадстаўнік райкама захлынуўся ў шчырым абурэнні, не здолеў нават зразумела выказацца. Яго падтрымаў чалавек у цывільным з непрабівальным тварам. Уменне выказваццa дакладна і выбудоўваць ланцугі вусцішных сваёй лагічнасцю высноў яму было не пазычаць. Сход Кудзелку давялося пакінуць з загадам аб звальненні і без партбілета. Аднаму, хто спрабаваў заступіцца, нібыта жартам пагразілі: і табе тое будзе, пачакай.

Партбілет удалося пасля пяцігадак упартага змагання адваяваць. Але ненадоўга. Дачка падала прашэнне аб выездзе ў Ізраіль. І з'ехала. А пачалося ўсё з бяскрыўдных пасылачак з "зямлі продкаў". Жонка, тая не вытрывала ўсіх гадоў нэндзы і прыніжэнняў. Дачка сказала, што не жадае сабе падобнага жыцця. Ехаць з ёй ён адмовіўся. Ён наогул не здолеў бы зрабіць падобнага кроку. Яго́ная зямля тут, і кропка. І тым усё сказана. Дый потым, ён жа не яўрэй... Гэта жончыны бацькі пахаваныя на даўно спляжаных яўрэйскіх могілках, яго бацькі засталіся за вясковай аселіцай у бярозавым гаёчку. Самому Кудзелку ляжаць на камунальных могілках, з жонкай. Дзе ўсе цяпер роўныя, незалежна ад веры. З гэтым пакончана. Толькі пасада яшчэ штосьці значыць. Але ямы ў зямлі ўсё адно рыюць аднолькавыя, і вялізныя камяні, наўмысна ўкінутыя ў спод, вымаюцца за адну і тую таксу.

Яго падгаворвалі вырачыся дачкі. Ён тады якраз толькі-толькі аднавіўся ў шэрагах, дык пабойваўся, каб ізноў не страціць партбілета. Змаладушнічаў, публічна асудзіў за выезд. Ну, а адмаўляцца — не, не адмовіўся. Звяры і тыя сваім дзеткам подласці не зробяць. Нямала потым пакутаваў, начамі не спаў. Нарэшце напрасаваўся, гальштук пачапіў, пайшоў на прыём. І што ж? Не стрываў, загарачыўся, білет з кішэні выняў. Ну, а там, як вядома, бэсціць святыні не дазваляюць. "Партыі такія непатрэбны, хто не цэніць членства ў ёй!" Паўторна вылецеў з трэскам, "пад фанфары". Зноў усё прыпомнілі: і як не ўхваляў "упарадкавання" цэнаў, і пра кепікі з "ідэалагічнага забеспячэння жніва". "Ідэалагічнае забеспячэнне вывазкі ўгнаенняў на палеткі..." Што прыдумаў, га! Антысаветчык.

Часы, аднак, дзякаваць Богу, крыху іншыя насталі. Рэдактар пашкадаваў яго сівых валасоў, на дагаворы пакінуў. Дапамагло членства ў Саюзе журналістаў.

А дзеля чаго ўсё? Дзеля кавалка хлеба. Сабачая праца ў раёнцы. Штодня — давай, давай, давай, давай! А што даваць? У пісьмах — адна шэрая бездапаможнасць, графаманства ды скаргі. А каб выехаць у вёску, дык "казёл" заўжды на прыколе. Едзь аўтобусам, дабірайся пешкі. Нічога не спляцець, але на заўтра пакладзі рэдактару на стол у надрукаваным выглядзе, чарговыя дзвесце-трыста радкоў. Хоць ты сабакам скавычы! Але ўсё адно не дапаможа.

А ганарары — цьфу! Траяк — пяцёрка. А ты пры гэтым яшчэ ўсё пішы-пішы за іншых. Кожны другі з дзесяцігодкай, а ты за яго выдумляй, прозвішчам ягоным падпісвай, ды каб без памылак, не дай Бог ініцыял зблытаеш! Лезь у чужую скуру, ламай галаву, бы той камедыянт: а як гэта мой герой-двайнік можа мысліць, які лад яго думак, а ці здатны ён на такія вось меркаванні, ці не занадта разумнымі будуць для яго наступныя, народжаныя ў тваёй галаве высновы? З глузду з'ехаць можна. А яму толькі застаецца схадзіць на пошту і грошы атрымаць. Гэта называецца "масавасцю" друку. Наступным разам лайдак табе і "дзякуй" не скажа. Вып'е на тыя незаробленыя рублі бутэльку ды толькі пакпіць з раёншчыка. Маўляў, такі недалужны, некаму грошы зарабляе на гарэлку, а сам чаравікаў сабе новых прыдбаць не можа. Так, ён табой, твой "аўтар", пагарджае. І заслужана, таварыш Кудзелка.

І ўсё адно Кудзелку падабалася назіраць жыццё ва ўсякіх яго праявах, аналізаваць і малюваць у думках вобразы справядлівай, паводле яго меркаванняў, пабудовы свету. Адным словам, ён быў да ўсяго яшчэ і паэтам, якіх сустрэнеш у кожным, бадай, мястэчку і якія адлучаны ад літаратурнага асяроддзя сталіцы, а вершы іхнія амаль не трапляюць на старонкі часопісаў. Большасці з іх так і не ўдаецца патрымаць у руках уласнага, хай танюткага зборніка. І паміраюць яны ў невядомасці, і прозвішчы нябожчыкаў — на магільных плітах старчма — пішуць рускімі літарамі, хоць кожны жывучы марыць аб іншым, у чым, аднак, звычайна не паспявае прызнацца.

Пэўна, і яму наканавана ляжаць пад рускім надпісам, лёс у мястэчковых паэтаў аднолькавы. Нават і яго гэта чакае, які мову сваю, падчарку пагарджаную, праз семдзесят год абдзяржаўленую дэ-юрэ, любіць, як не шмат хто ў іхнім мястэчку. Ат, не прывыкаць. Газета ж яго таксама па-руску друкуецца, хоць у раёне, паводле статыстыкі, большасць людзей лічыцца палякамі. Палякі ў пашпарце, руская газета, а размаўляюць усе спрэс на трасянцы. Цырк на дроце. У касцёле паўтараюць за ксяндзом, прысланым з Польшчы, польскую "лаціну", на вяселлях спяваюць свае, беларускія песні, а штогод у лютым праводзяць на адзінай у мястэчку плошчы — пад бацькоўскім паглядам цэментнага Леніна — "рускую зіму". Можа, у гэтым і ёсць той сапраўдны інтэрнацыяналізм? Такая думка даўно ўжо прыходзіла Кудзелку да галавы, але выказаць яе ўголас ён бы не наважыўся. Няма дурняў!

Кніжачку ён усё ж выдаў! На апошніх сваіх вайсковых зборах, у перасоўнай друкарні. Пашкадаваў яго адзін чалавек. Маёр. Адчуў у ім паэта і пашкадаваў. Шкадоба, мабыць, не лепшае пачуццё. Але што зробіш, калі ў сталіцы яго наогул ведаць не хочуць. А вось чалавек знайшоўся сярод вайскоўцаў, свой — беларус. Прапанаваў сам, атрымаў абавязковы дазвол у вайсковага цэнзара. Спакуса была надта вялікай. Як тут адмовішся? Выйшла, праўда, усяго дваццаць пяць старонак. Выбранае. З два дзесяткі вершаў. Літаратурны дадатак да "Боевого знамени". Гэткая вось "Дудка..." Ён і назваў адпаведна — "Старая басэтля". Надта слова добрае, ды забытае. Так, кніжка ў лесе выйшла, як партызанская. Літву тады якраз аблажылі з бакоў. За тое, што абвясціла аб незалежнасці. Усё гэта вельмі нагадвала шэсцьдзесят восьмы год. Але стары адно радаваўся сваёй кніжачцы.

Пасля вяртання з лесу ён атрымаў ліст ад дачкі. Яна запрашала да сябе, пісала, што грошай ім хопіць абаім, нават калі ён не будзе працаваць. Так, і цяпер, каб не даччына падтрымка, хадзіў бы ён у бясплатную сталоўку... А можа, яго сапраўды прымуць там за свайго, бо часам называюць за вочы "французам"? Хто ён увогуле такі? Па маці нашчадак татарскага конніка, які за Грунвальд атрымаў нібыта ад самога князя Вітаўта загон той зямлі, якая дагэтуль лічыць яго няродным сынам...

Вось як яно выходзіць. Адна зямля гуртуе, другая — не. Адна гоіць, іншая, наадварот, толькі спараджае боль, развярэджвае раны. Адна выклікае любоў, другая нявечыць, гадуе ў сэрцах нігілізм. У чым жа моц той далёкай зямлі, што збірае-вабіць сваіх дзяцей з усяго свету, кліча і прымае іх як родных, як адзіна жаданых? Чаму гэтая грэшная зямля, дзе жыў Кудзелка, нарадзіла гэтульк і няшчасных і адрынутых, а таксама безліч тых, хто за грошы або за кавалак з чужога стала пакінуў яе абыякава на гібенне, або, калі застаўся, пагарджае ёю, якая ўзгадавала, карміла і корміць іх? Няма адказу. Таму, у Тэль-Авіве, нават Біблію Скарынаву даўным-даўно ўжо выдалі, усе кніжкі Старога Запавету. А тут да знямогі спрачаліся, а ці не будзе гэта прапагандай рэлігіі?!

Ён яшчэ перачытаў ліст, адклаў яго. Паўзіраўся ў старыя фотаздымак у рамцы пад шклом на сцяне. Яны з нябожчыцай-жонкай на Красным пляцы ў Маскве. Па-над зубчастым мурам на вежах зоркі. Гадзіннік паказвае маскоўскі час. І з мясцовым часам абдурылі, успомнілася яму. Спачатку дазволілі, а потым зноў маскоўскі вярнулі, каб не было сепаратызму. Маўляў, эксперымент... Пасядзеўшы так, адчуў ён стому і кволасць. Пайшоў і прылёг на ложак. Дае, дае пра сябе знаць радыяцыя, звыкла падумаў Кудзелка, засынаючы. Дзве трэці іхняга раёна былі засмечаныя чарнобыльскімі радыенуклідамі. Яму снілася, як ён, купіўшы дзесьці ў Іерусаліме кнігі Скарыны і дазіметр, вяртаецца дахаты.



нашмат пазней..." І я зразумеў, — усё, што будзе ў мяне, будзе не на першых гадах работы...

Што да вучобы, дык Мікалай Кірычэнка — шчаслівы чалавек. Меў адметныя дыпломныя работы (Мальер у "Кабале святош" або Цыганоў у "Варварах" — пра такія і сталаму прадстаўніку часам толькі марыць застаецца). Меў запрашэнні ў шмат якія беларускія тэатры, — так што мог выбіраць. Паехаў у Брэст. Таму, што з Брэстам была звязана асабістая зацікаўленасць, сям'я. Праз два гады мусіў вяртацца ў Мінск (немалую ролю адыгралі матчыны хваробы). У мастацкай радзе Купалаўскага тэатра — Бірыла, Ржэцкая, Дзядзюшка, Рахленка... Мыш не праскочыць, не тое што недавучаны акцёр. Памятае, першага красавіка сказалі з'явіцца. З'явіўся. Дырэктар Міхалюта мовіў нешта кшталту "радуйся, што мы цябе яшчэ памятаем..." Бо пакрыўджаны быў: Кірычэнка ж адмовіўся размеркавацца на першую драматычную сцэну рэспублікі... З 5 красавіка Кірычэнка ўжо быў у трупе. Уводы, невялікія ролі... Але — не складалася. Нязвыклай была для Мікалая рэжысёрская манера Валерыя Раеўскага, мастацкага лідара тэатра, манера рабіць франтальна, публіцыстычна, праз прыём, у які ён ніяк не мог трапіць... (Бо Арлоў — гэта выбітная школа пражывання на сцэне, псіхалагічная школа.) Ён стаў зацятым, стаў пачувацца неяк нязграбна, не надта раскута... Іграў у эцюдах, у эпізодах, у масоўках... У "Начы зацьмення месяца", нарэшце, здарылася... Тое непаўторнае, тэатральнае, адзінае, што давяло Кірычэнкаву выдатную акцёрскую класнасць: "Ніякіх размоў на гэтую тэму не вялося, — сказаў быў Мікалай, — але я заўважыў, як змянілася вакол мяне атмасфера... "Апошні шанц", "Вясёлы тракт", — спектаклі, дзе я пачуваўся не шараговым, хоць і добрым выканаўцам рэжысёравай волі... Як і ў спектаклі "Мы, што ніжэй падпісаліся"... Прынамсі, у Мікалая ёсць здымак, падпісаны самім драматургам Гельманам, — выканаўца спадабаўся драматургу...

— Пакуль у мяне не звязаліся ўсе вузельчыкі ролі, пакуль усярэдзіне ўсё не заматывуецца, я бездапаможны, — тлумачыць сваё стаўленне да сцэнічнае практыкі акцёр і выкладчык Мікалай Кірычэнка. — Сёння, скажам, на любові да тэатра, да п'есы можа атрымацца, а заўтра — не атрымаецца. Я і студэнтам гэта кажу: пакуль не заматывуеш, не патрапіш кіраваць сабой у ролі. Гэтая практыка распаўсюджваецца і на тэатр, і на кіно.

...І лепшыя ролі Мікалая Кірычэнкі пацвярджаюць гэтае адметна заматываванае валоданне сабою ў ролі. Валоданне матэрыялам і, да прыкладу, яго пераканаўчай характарнасцю, прыёмамі самых розных тэатральных кірункаў, стылямі і ўменнем падпарадкаваць сабе атмасферу, нарэшце, самім няўлоўным тэатральным "нечым", без якога не спраўджваецца існая гульня, — пры ўсёй чалавечай сціпласці менавіта адмысловая прафесійнасць выводзіць Мікалая Кірычэнку ў першыя шэрагі беларускіх акцёраў. Часам заўважна, як выбіваецца Кірычэнка з састарэлай стылістыкі некаторых купалаўскіх пастановак, — бездакорнасцю, дасканаласцю, адметным малюнкам... Зрэшты, ён купалавец, і гэтым многае сказана... Ён можа выйсці Чорным анёлам у "Тутэйшых" — адрабіць фарбай у рэжысёрскай палітры; у "Ідыліі" можна ўгледзець, як ён цягае вазок з манціроўшчыкамі (тыя занятыя ў ролях звяздароў, астролагаў і круцяць нішто іншае, як глобус Беларусі, які павешаны бліжэй да каласнікоў)... Верагодна, гэта і ёсць тое стаўленне да прафесіі, якое закладалася ў студыі апантаным тэатральным руплiўцам Балабохіным, тое стаўленне да прафесіі, якое доўга кшталціў прафесар Арлоў... Сёння ты мусіш выйсці і дзве гадзіны ніцма ляжаць на сцэне, — таму што так трэба. А заўтра трэба, каб ты ў пэўным месцы прайшоў па сцэне наўскасы. Рэжысёру трэба — такі тып, такая фарба, такі тон. Акцёр Кірычэнка не думае, што гэта мусіць неяк абмяркоўвацца. Прафесія! Прафесія, якую акцёр любіць і ставіць над усім.

— Абсалютна так, — пагаджаецца ён. — У мяне ніводнага зрыву спектакля не было праз маю хваробу, скажам. Даходзіла да таго, што іграў казку з двухбаковым запаленнем лёгкіх, або ў "Лапцях-самаскоках" страціў прытомнасць. Чаго толькі не было... Сур'ёзная аперацыя ў сераду. У чацвер я ачуўся, не разумеючы, трэба сказаць, дзе я. У пятніцу ціха абматаўся эластычным бінтам і сышоў у машыну. Яе сябры падагналі да бальніцы. Ціха. Медсястра паспела хіба заўважыць: "Куды вы?". А я: "Мяне прывязуць". А яна: "Вы пасля аперацыі". А я: "У мяне спектакль". Ёй зрабілася кепска... А ў мяне — "Крывавая Мэры". А на наступны дзень — "Ромул Вялікі". Адзіны дзень, калі тэатр па маёй віне мусіў-такі памяняць спектакль — дзень, калі я ляжаў у хірурга на стале. Або з сурдалагічнага дыспансера ў пяць гадзін вечара прыехаў іграць "Таполевую завею". Іграў па вуснах партнёраў, — не чуў нічога... Гэта — не гераізм, крый Божа. Гэта, бадай, наркаманія прафесіі. Ёсць шанц выйсці на сцэну — мусіш яго скарыстаць. Я не цярплю тлумачэнняў, маўляў, люблю тэатр. Я не люблю слова "люблю"... Аднак за ўсё трэба плаціць і я плачу — здароўем. Стамляе перадусім тое, што з тэатра знікае... тэатр. Т о й тэатр, у якім можна было заседжвацца да позняй ночы, шукаць, дамагацца, ставіць сабе нейкія планкі, умовы, тэрміны... Але я з цяжкасцю веру ў тое, што акцёр, які годна, вартасна праіснаваў у прафесіі, можа з яе пайсці. Я ведаю тых, хто сыходзіў, каб вярнуцца. Ды што там, — нашы купалаўскія манціроўшчыкі! З тых, што знайшлі ўежныя месцы або ўлежныя заняткі, — прыходзяць на спектаклі! Нават манціроўшчыкі, якія прайшлі праз сцэну, не могуць яе кінуць!

Адна з апошніх роляў Мікалая Кірычэнкі — Ягайла ў спектаклі "Князь Вітаўт" А. Дударава. У спектаклі, які да сённяшняга дня пражыў трыццаць паказаў і трыццаць аншлагаў. Ягайлу ён сыграў і ў тэлефільме "Пастка для зубра", — адну з лепшых роляў у фільме. І калі традыцыйна меркаваць пра акцёрскія задумы — дык толькі пра лепшыя. А пра лепшыя ўголас ды на ўвесь свет лепш не казаць...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**
*Фота Аляксея МАЦЮША*

---

сённяшніх герояў роўны іх непрыкметнаму сацыяльнаму статусу, і таму гісторыя Тамары і Ільіна з лёсу пакалення пераўтвараецца ў гісторыю запозненага кахання адзінокага небаракі з Поўначы і старой дзеўкі, што згубіла ў штодзённым ліхалецці жаночае абаянне.

Прыканцы 70-х М. Міхалкоў, здымаючы "Пяць вечароў" тонка ўгадаў хісткую стылістыку твора, яго месца паміж п'есай і сцэнарыем. Духоўны вопыт дзесяцігоддзяў адгукнуўся псіхалагічна вытанчанай ігрой акцёраў — Л. Гурчанкі і С. Любшына, нервовай рафінаванасцю іх персанажаў. У спектаклі антрэпрызы героі душэўна глухія. А навязлівы паўтор кінематаграфічнага малюнка маладой парай (Л. Абрамава, А. Кізіна) выклікае няёмкасць. Адно толькі месца кранае па-сапраўднаму. Калі Тамара (В. Клебановіч) у канцы другога вечара, не вытрымаўшы новай страты Ільіна, трымае доўгую паўзу, па інерцыі накручвае бігудзі, а затым б'ецца ў істэрыцы.

Ёсць творы драматычнага мастацтва, якія вымагаюць саліравання, віртуознай тэхнікі вялікай формы. Такой п'есай з'яўляецца "Двое на арэлях" У. Гібсана. Ён і Яна, былая танцоўшчыца і пазбаўлены практыкі адвакат, два закінутыя адзіноцтвы аднойчы сустрэліся. Абодва перажываюць душэўны злом на мяжы сталасці, расчараваныя жыццём, абодва глыбока няшчасныя і прагнуць чалавечай цеплыні і паразумення. Адна толькі розніца паміж імі: у Джэры ёсць мінулае, і ён жыве ім, а ў Гітэль ёсць толькі сучаснасць.

Вобраз гэтай п'есы — мост. Невыпадкова Джэры так любіць гуляць начамі і даследаваць масты. Героі п'есы нібы спыніліся на адным з іх: можна вярнуцца назад, можна перайсці на другі бераг і пачаць новае жыццё, а мо — кінуцца ў вір. Кожны з іх выбірае ўласны шлях.

Спектакль маладзечанскага тэатра ў пастаноўцы М. Мацкевіча — надта традыцыйны. Яму бракуе вобразнасці. Сцэна ўмоўна падзелена на дзве часткі — выгарадкі жылля герояў. Безаблічная шэрая карцінка побыту не афарбавана колерам, прыкметамі часу ці індывідуальнасці персанажаў. Гарадскі пакой увогуле. Выдатная актрыса В. Кавалерава, якая ўмее сыграць увесь спектакль без слоў, на гэты раз занадта захапілася эмоцыяй унутранага зрыву, нябачнай істэрыкі. Яе існаванне на сцэне — трапяткое, нервовае. Вялікай псіхалагічнай школай зрабілася роля Джэры для акцёра Я. Іўковіча (і ён вядзе яе годна). За іх дуэтам часам цікава назіраць. Але нейкай глыбіні, дыхання, свабоды саліравання не хапае. Дуэт усё ж такі дастаткова вучнёўскі ў адносінах да п'есы: тэкстам авалодалі, правільна выконваюць штрыхі, але казаць аб "інтэрпрэтацыі" не выпадае. Галоўная тэма твора — адзінота — сыграна неяк усярэднена, адзіноцтва не адчута душою, што перажыла адчай "бедных людзей" Дастаеўскага. А менавіта да іх апелюе Гібсан. Таму акцёры, нягледзячы на расцягнутасць дзеяння (спектакль доўжыцца амаль тры гадзіны), нібы слізгаюць па паверхні. Чуеш знаёмую мелодыю, але яна душу не кранае.

## МАНЯ+ВАНЯ=ЛЮБОЎ

Затое спектакль "Парфён і Аляксандра" не толькі выводзіць з раўнавагі, але і выклікае абуральныя пачуцці.

Хроніка шчаслівага мнагадзетнага сямейства прадстаўлена Б. Герлаванам і В. Раеўскім з іроніяй, як аб'ёмны маляваны дыван, прымітыўны лубок: заслоначкі лубочнай скрыначкі адчыняюцца... а там — ложак у фальбонках, кілім на сцяне і стрэльба. Вось там, у ложку, і адбываюцца асноўныя падзеі — сем немаўлят зачынаюцца пад буркатанне галубкоў. Пікантнасць гісторыі надае тая акалічнасць, што мужу за пяцьдзесят, а жонцы каля дваццаці. Адзначым — для сусветнай літаратуры гэта ўвогуле не нагода для драматызму...

Але "творы" М. Манохіна і спектаклі купалаўцаў на гэты факт нанізваюцца ўсе банальнасці, якія можна толькі сабе ўявіць: што шчасце бабы ў сям'і і дзецях, што на радзіме лепей, чым у круізе, што вартасць мужа залежыць не ад узросту, а ад працаздольнасці пэўнай часткі цела, ды й увогуле — колькі трэба сыходзіцца на тыдзень сямейнай пары? І ці абавязкова даводзіць супружніцу да аргазму? Вось так...

Душна. Моташна. Можна сказаць: прыехалі. Здзяцінелі да мяжы ідыятызму.

А многім гледачам падабаецца. А чаму не? — выхаваны на формуле Маня+Ваня=любоў, на "жду ответа, как соловей лета", на ружовых пысках у аблямоўцы чырвонага сэрцайка. Вядома, спадабаецца — у мексіканскіх серыялах і не тое ўбачыш.

Такім чынам, бестселер М. Манохіна крочыць па краіне. Ужо ў трох тэатрах пастаўлены. У купалаўскім спектаклі іграюць фенаменальна арганічныя акцёры: Г. Гарбук (ён быццам і не іграе, а жыве, — лагодны, спакойны, наіўны мужык, што засумаваў па каханні і шчасці) і Ю. Міхневіч (яе Аляксандра — не пошлая, а сталая жаночай прывабнасцю, наіўнай чароўнасцю). Арганічнасць акцёраў увогуле часткова "здымае" пошласць тэксту, са сцэны ліецца цеплыня, лагоднасць. Але куды падзецца ад яе ліпкай банальнасці, прымітыўнасці? Як забыць, выкрасліць з памяці Чэхава, Мрожака? Наогул, як прыканцы XX стагоддзя пазбыцца падобнага ачмурэння?

## КАЛЯРОВЫЯ СНЫ

Не, лепш крыкнуць "Ад вінта!", прапаўзці на карачках пад грымучую "Дусю, Дусю", абтрэсціся і "папрыкольвацца" ў духу "Розыгрышу". Так і робяць, атрасаючы штодзённае ачмурэнне героі маладзёжнага спектакля Тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі ў пастаноўцы В. Растрыжэнкава. Менавіта гэты спектакль і дэбют маладога драматурга сталі глытком свежага паветра ў фестывальнай афішы "Сакавіцы", яе "бярозавым сокам".

У паўпусты дом, які какетліва азірае госця, урываюцца "джэнтльмены з вялікай дарогі" і трымаюць маладую жанчыну пад пагрозай насілля. Напружана, дэтэктыўна пачынаецца п'еса С. Кандрашова і спектакль Вольнай сцэны. Трывіяльная, але ад гэтага не менш жахлівая пагроза насілля, аднак аказваецца бліскучым розыгрышам. У ім "купаюцца" гаспадар дома малады бізнесовец Аляксей (І. Сігоў) і ягоны кранальна-правінцыйны дзевер (М. Рабычын). Прыбываюць новыя госці, а значыць — магчымы і новыя розыгрышы. Падобныя "прыколы" сталі другім жыццём насельнікаў дома, своеасаблівым наркотыкам. Толькі гэтыя жорсткія гульні ўзбуджаюць энергію, смак існавання. У астатні час сябры разняволена п'юць каньяк і млява дыскутуюць. Аднак у гэтых гульнях ёсць свае ахвяры. І для іх розыгрыш — не проста экзатычны балаган, але па-сапраўднаму перажыты тэатр жорсткасці. Прычым ахвяры і каты могуць мяняцца месцамі.

Адметнасць п'есы — сучасная мова, модны стыль зносінаў, дзе жаргон і прыколы набываюць кшталту азбукі морзе, якую не трэба разгадваць маладзёжнай трупе. Дзеянне разгортваецца не простаралінейна, не банальна. Бачанне гледача, вугал, пад якім ён глядзіць, увесь час мяняецца: мы то самі становімся ахвярамі розыгрышу, то ведаем пра планы прыдумшчыкаў, то зноў гатовыя паверыць ім — і падмануцца.

Маладыя артысты не проста арганічна існуюць у вадакруце п'есы Кандрашова, але ствараюць яркія, запамінальныя тыпы, характары. Гэта перш за ўсё Дзіма ў выкананні М. Рабычына са спрытам і жаргонам крымінальніка і адначасова — бясконцым абаяннем прыроджанага коміка і трапяткой душой паэта. Ён сябруе і слугуе гаспадару дома па мянушцы Граф (І. Сігоў) — расчараванаму "мясцоваму джэнтльмену", каралю розыгрышаў. Несумяшчальную пару складаюць спакуслівая жанчына-драпежніца Святлана (А. Гудкова) і небарака паэт з далікатнай душой (Д. Бойка), які трымаецца за яе спадніцу. Загадкавым Пячорыным, нябачным дырыжорам падзей выступае ў другім акце ўпэўнены ў сабе, цынічны доктар Антон (У. Іваноў). Кантрастныя тыпы жанчын ствараюць Л. Арцімовіч і Л. Сідаркевіч. Адна — бязвольная, мяккая, усёдаруючая жонка Аляксея, другая — сяброўка доктара, выбуховы гулец па жыцці.

Бліжэй да фіналу розыгрышы робяцца больш жорсткімі, бязлітаснымі. Мяжа рэальнасці і гульні ссоўваецца, падобна п'есам Ж. Жэнэ, ці гульням у замкнёнай прасторы Ф. Дзюрэнмата.

Апошняе кола выпрабавання герояў — рулетка з сапраўдным пісталетам, калі на кон пастаўлена жыццё. Пад халоднае дула змог стаць і перажыць прадсмяротную хвіліну толькі блазнюк і алкаш Дзіма. Астатнія — хто спалохаўся, хто згуляў на публіку. Санчо аказаўся Дон Кіхотам. Блазенства на фоне цынізму становіцца рысай нашага часу.

Другім прарывам у мову сучаснасці з'явіўся спектакль гомельскага Незалежнага тэатра "Дом для зачаццяў" К. Драгунскай (пастаноўка У. Караткевіча). Ён вылучаўся вобразна вырашанай прасторай і шматзначнасцю дэталі на сцэне.

"Сад ты мой, сыраегавы" ўскліквае, прыгаворвае час ад часу Начлегаў, уладальнік дома — недарэчны, з дзівацтвамі і тэатральнай патэтыкай тып (С. Чугай) і з замілаваннем перабірае рэчы, удыхае пах старызны з куфра, пілуе дошкі, прыслухоўваецца да гукаў музычнай скрынкі, выцягвае аднекуль самавар. Для другога персанажа, бамжа Восеньскага Стральца (А. Троіцкі) "сад-занядбаны рай" звязаны з іншым: сапраўднымі яблыкамі, што раскіданыя па сцэне, пустой бляшанкай, памерлай птушкай, старым веласіпедам. Для кілера Скай (Т. Булгакава) жыццё — гэта швейная машынка "Зінгер", "Піянерская праўда" і клубніцы ў кошыку.

Раптам сцэнічна зайграла "натуральнасць" прадметаў. Бо за кожным з іх — цэлы аповед пра час, пра лёс, дзяцінства. Гэта тыя каменьчыкі ўспамінаў, пукатыя, быццам у сюррэалістычным сне, якія і складаюць "жыццё" пакалення. Мова п'есы, як і прадметы на сцэне, метафарычная, чэпкая.

Занядбаны хворы сад, дзе гінуць птушкі і сабакі, які ўвогуле "насяляць забараняецца", месцажыхарства бамжэй, рэкета і эмігрантаў, — ператвараецца ў вобраз краіны. Яе продажу, "інвентарызацыі" жыхары саду спрабуюць супрацьпаставіць сваю малую ўтопію Дома-саду, Сям'і, як нязздзейсненай мары ўсіх персанажаў. Пад гул верталётаў яны п'юць гарбату з самавара, сустракаюць Новы год, сутаргава імкнуцца распавесці гісторыю свайго жыцця, унесці ў знішчальны аўтаматызм існавання каляровыя каменьчыкі ўспамінаў. Спектакль гучыць шчымлівай трагедыйнай нотай. Але яго фінал з гульнёй літары Ы і Т, якія нарэшце скаліся ў слова ТЫ, пакідае надзею, надзею на магчымы дыялог паміж людзьмі, звязанымі адным гістарычным лёсам і агульнымі вобразамі юнацтва. Памяць вельмі выбарлівая. Тое, што ўспомнім мы, — будуць ведаць і нашыя продкі.

Другі раз адкрыццём "Сакавіцы" становяцца сучасныя драматургі: беларусы Д. Бойка, С. Кандрашоў, масквічка К. Драгунская. Акцэнт з акцёрскай творчасці перамяшчаецца на літаратурную аснову. Сёлетнія ўдачы звязаны менавіта з ёй.

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ**

# Кіламетры "праўдзівых крыніц"

## 60 ГАДОЎ НАЗАД БЫЎ СТВОРАНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ

Апошнія гады мы шмат гаворым пра абуджэнне нашай нацыянальнай свядомасці, пра вяртанне нашаму народу ягонай гістарычнай памяці, пра пошукі забытых і занядбаных каранёў і вытокаў, якія ствараюць і сілкуюць нацыю. На жаль, гаворкі гэтыя часам носяць вельмі агульны, адцягнены характар, пазбаўлены рэальнай, відочнай канкрэтыкі. Зрэшты, яно й не дзіўна. Бо — што такое гэтая самая гістарычная памяць? Як яе ўбачыць, адчуць і ўсвядоміць? Асабліва ж — пасля стагоддзяў бяспамяцтва! Уяўленне — рэч датклівая, крохкая. Вось калі б яе, гэтую памяць, змагло б убачыць вока ды адчуць, дакрануцца да яе — рука!

Аказваецца, ёсць месца, дзе гэта можна зрабіць. Месца гэтае, як чытач ужо здагадаўся, — Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Тут, так бы мовіць, гістарычная памяць нашага народа сапраўды паўстае ў канкрэтных, асязальных рэчах. У дакументах, у якіх занатавана, адлюстравана шматвяковая гісторыя нашай Бацькаўшчыны. У маўклівых сведках мінулага, якія, калі да іх дакрануцца, набываюць голас і распавядаюць нам пра сівую даўніну, пра повязь часоў і падзей.

Архіў — уражвае. Ужо нават сваім будынкам — адмысловым, адметным на старой мінскай вуліцы Крапоткіна. Ён здалёк кідаецца ў вочы: стройны чырвоны шматпавярховік з нешматлікімі і невялікімі вузкімі вокнамі-байніцамі, каб у іх не надта шчодра зазірала сонца, бо яно, насуперак сваёй жыццестваральнай сіле, згубна ўздзейнічае на паперу — матэрыял амаль усёй масы дакументаў. А яшчэ больш уражвае архіў унутры. Кожны з нас ведае, што архіўная ўстанова — гэта паліцы, стэлажы з папкамі ці скрынкамі дакументаў. Але раптоўна ўбачыць, што гэтых паліц-стэлажоў — цэлыя кіламетры. А калі даведваемся, што гэтых кіламетраў не два ці тры, а ажно дванаццаць! — гэта не проста ўражвае, а сапраўды ашаламляе. Яшчэ большае ўтрапенне бярэ цябе, калі бачыш перад сабою, урэшце трымаеш у руках важкі, але мяккі і нейкі быццам цёплы пергамент — княжацкую грамату — далёкага, папраўдзе сівога — ад смугі часу — XIV стагоддзя! У такія хвіліны, пэўна, і прыходзіць да нас згаданае вышэй усведамленне, разуменне канкрэтыкі гістарычнай памяці зямлі і народа нашага...

Пасля кароткай азнаямленчай экскурсіі па лабірынтах архіва гутару з яго дырэктаркай Алай Галубовіч. Напачатку прашу распавесці пра тое, адкуль бярэ пачатак наш Нацыянальны гістарычны архіў, якія найбольш старажытныя дакументы зберагаюцца ў ім, што ўвогуле захоўваецца ў архіўных зборах.

— Першы па часе свайго нараджэння дакумент, які захоўваецца ў нашым архіве, — гаворыць Ала Купрыянаўна, — пазначаны 20 чэрвеня 1391 года. Гэта грамата князёў Кур'ятовічаў, якія жалавалі пану Грыньку горад Сакалец за верную службу... А ўвогуле архіў захоўвае дакументы з канца XVI стагоддзя па 1917 год. Ёсць яшчэ матэрыялы 1938—1939 гадоў, а таксама матэрыялы з фонду роду Радзівілаў. Наш архіў аб'яднаў, увабраў у сябе дакументы Нясвіжскага архіва, утворанага ў 1551 годзе, былога Віцебскага архіва старажытных актаў (створаны ў 1862 годзе), а таксама Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР, які быў створаны ў 1938 годзе ў Магілёве. З апошняй даты, як вы здагадаліся, мы і адлічваем свой узрост. У 1963 годзе адбылася рэарганізацыя архіўнай справы, архіў з Магілёва быў пераведзены ў Мінск, у дадатак яму былі перададзены фонды канцылярыі Мінскай губерні. Прыкладна ў такім выглядзе мы існуем і сёння. Адно што ў 1995 годзе нам быў нададзены статус Нацыянальнага гістарычнага архіва. Сама назва гаворыць ужо за тое, што ў нас захоўваюцца пераважна дакументы дасавецкага перыяду, пра што я ўжо гаварыла.

Сярод найбольш старажытных дакументаў — актавыя кнігі XV—XVIII — стагоддзяў, граматы і прывілеі — XIV—XVII стагоддзяў, напісаныя ў асноўным на старабеларускай, старапольскай і лацінскай мовах. Зрэшты, ёсць дакументы і на французскай, нямецкай, італьянскай мовах, звязаныя з падзеямі, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў розныя перыяды нашай трагічнай і пакручастай гісторыі.

Захоўваецца ў нас, скажам, Універсал Багдана Хмяльніцкага ад 7 мая 1656 года аб прадастаўленні купцам горада Слуцка права свабоднага гандлю на тэрыторыі Украіны. Захоўваюцца дакументы пра слаўнага кіраўніка паўстання 1794 года на Беларусі, Польшчы і Літве Тадэвуша Касцюшку. Нямала матэрыялаў пра падзеі, якія адбываліся на Беларусі падчас Паўночнай вайны 1721 года, вайны 1812 года, руска-турэцкай і руска-японскай войнаў, першай сусветнай вайны. Калі гаварыць пра апошнюю, дык у нас захоўваюцца дакументы лазарэтаў і вайсковых шпіталяў, спісы памерлых у іх салдат і афіцэраў. Дарэчы, зараз разглядаецца пытанне аб увекавечанні іх памяці.

Ёсць у нас дакументы, хай сабе і няшмат, пра падзеі, звязаныя з паўстаннем дзекабрыстаў 1825 года. У прыватнасці, захоўваецца арыгінал пісьма Марыі Юшнеўскай, жонкі дзекабрыста генерала Юшнеўскага, якая пайшла за ім у Сібір, да свайго брата Кулікоўскага, які жыў у Віцебску. Пакуль пісьмо прайшло цэнзуру і патрапіла ў Віцебск, брата перавялі ўжо па службе ў іншае месца, і пісьмо аказалася ў фондах канцылярыі Віцебскага губернатара. Пэўна, нейкі чыноўнік не палічыў патрэбным пераслаць ліст па прызначэнні і пакінуў яго ў справаводстве канцылярыі.

Ёсць у нас і аўтограф дзекабрыста Пестэля, аднаго з галоўных ідэолагаў і кіраўнікоў паўстання на Сенацкай плошчы Пецярбурга.

Не магу не згадаць і дакументы, што маюць дачыненне да падзей на Беларусі падчас паўстанняў 1830-31, а таксама 1863-64 гадоў. Бадай, адзін з самых цікавых дакументаў 1830 года — цыркуляр Мінскага часовага ваеннага губернатара Мінскаму грамадзянскаму губернатару аб росшуку памешчыка Паўла Астроўскага за ўдзел яго ў паўстанні. Нагадаю чытачам "ЛіМа", што менавіта паўстанец-памешчык Павел Астроўскі паслужыў Пушкіну правобразам Уладзіміра Дуброўскага ў яго славутай аповесці.

З дакументаў пра падзеі 1830-31 гадоў на Беларусі згадаю яшчэ варыянт верша А. Міцкевіча "Смерць камандзіра", прысвечанага славутай паўстанцы Эміліі Плятэр. Увогуле ж пра вялікага паэта-патрыёта, з часу нараджэння якога неўзабаве спаўняецца 200 гадоў, у нас захоўваецца нямала цікавых, унікальных дакументаў. Як, дарэчы, і пра многіх іншых слаўных сыноў зямлі нашай — у прыватнасці, кампазітараў Агінскага і Манюшку. Дакументы сведчаць, што да Беларусі мелі дачыненне і вялікія рускія пісьменнікі Тургенеў і Бялінскі. Скажам, у нас захоўваецца праца В. Бялінскага "Аб выкладанні рускай мовы ў нярускіх школах", якая доўгі час лічылася згубленай.

Зберагаюцца ў нас і дакументы пра эканамічнае жыццё Беларусі ў розныя гістарычныя перыяды. Скажам, архіўныя паліцы могуць расказаць нямала цікавага пра заснаваную ў 1758 годзе ў Слуцку фабрыку персідскіх паясоў і тканін, якая сваімі вырабамі славілася ва ўсім свеце, але пра якую мы, прынамсі, большасць з нас ведаем эмацыйна з багдановічаўскага верша "Слуцкія ткачыхі".

Велізарную каштоўнасць уяўляюць дакументы памешчыцкіх і дзяржаўных маёнткаў, так званыя "інвентары". Яны з'яўляюцца адной з асноўных крыніц гісторыі нашай вёскі XVI — першай паловы XIX стагоддзя.

**— Ала Купрыянаўна, часам можна чуць, што, маўляў, архіў — гэта не мёртвая структура, а жывы арганізм, які працуе не толькі на дзень мінулы, але і на дзень заўтрашні. Скажыце, наколькі ўсё ж справядлівая падобная метафара? Як архіўныя дакументы служаць тым ці іншым практычным мэтам?**

— Падобная метафара, як вы кажаце, зусім не беспадстаўная. Вось, калі ласка. Дзякуючы нашым архіўным дакументам была распрацавана дакументацыя па ўзнаўленні, рэстаўрацыі і пашпартызацыі такіх помнікаў культуры і архітэктуры, як Сафійскі сабор у Полацку, касцёл Святога Роха ў Мінску, замак у Міры, палац Агінскіх у Залессі, многіх іншых аб'ектаў.

Звяртаюцца да нас самыя розныя людзі, спецыялісты самага рознага профілю, ажно, скажам, да фармацэўтаў. Чаму згадваю пра іх? Сёння вельмі ажывілася цікавасць да народных сродкаў лекавання, да таго, як ратаваліся ад хвароб і розных нямогласцяў нашы продкі, дзяды і прадзеды. А дзе пра гэта даведацца? Вядома ж, у архівах. У нас, напрыклад, захоўваецца ці не ўся дакументацыя старэйшай беларускай аптэкі, якая ў свой час была заснавала ў Слуцку.

Скажу без пахвальбы, мы сапраўды дапамагаем вяртаць да жыцця нашу гісторыю. У дадатак да таго, што гаварыла, дадам: акурат дзякуючы нашым архіўным зборам былі складзены планы рэгенерацыі гістарычных цэнтраў Брэста, Віцебска, Магілёва, Полацка, Заслаўя і іншых нашых старажытных гарадоў.

Не сумняваюся, што дачакаюцца сваёй чаргі і запатрабуюцца па-сапраўднаму, з карысцю для справы багатыя фонды культурна-асветных устаноў і ўстаноў аховы здароўя Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў, а таксама іншыя дакументы, у тым ліку і вялікі картаграфічны матэрыял.

**— Ала Купрыянаўна, зараз многія людзі памкнуліся адшукаць свае карані, свае родавыя вытокі, аднавіць сваё радаводнае дрэва. На якую дапамогу могуць разлічваць такія людзі ў вашай установе?**

— Сапраўды, катаклізмы XX стагоддзя прывялі да таго, што былі разарваны ўсе людскія сувязі і повязі — сваяцкія, сямейныя, родавыя. А людзі ж не могуць без гэтага! Мінуў час — і яны спахапіліся, і прыходзяць да нас, прытым не толькі нашы суайчыннікі, але і з блізкага і далёкага замежжа. Прыводзіць іх жаданне адшукаць свае генеалагічныя сведчанні, свае радаслоўныя. А гэта вельмі вялікі пласт дакументаў. Звесткі гэтыя ўтрымліваюцца ў фондах рэлігійных устаноў, дваранска-дэпутацкіх сходаў, казённых палат, гарадскіх упраў, статкамітэтаў, фамільных фондаў і шмат якіх іншых дакументах. Адшукаць гэтыя звесткі для таго ці іншага чалавека — гэта надзвычай вялікі аб'ём працы. У нас ёсць, вядома, камп'ютэры, ды, на жаль, гэтыя дакументы ў іх яшчэ не ўнесены. Мы толькі пачынаем працаваць па гэтай тэматыцы. Вялікая цікавасць людзей да гісторыі свайго роду вымусіла нас распрацаваць спецыяльную праграму "Наш радавод", якую мы выконваем сумесна з Дзяржкамархівам Беларусі. Ажыццяўленне гэтай праграмы дазволіць стварыць агульнанацыянальны банк дадзеных. Тады кожны жадаючы зможа атрымаць неабходную яму інфармацыю. А пакуль што памагаем людзям, як можам. Лягчэй памагчы асобам дваранскага паходжання, бо збераглісяпаасобная сямейныя фонды. Напрыклад, ёсць у нас фонд Радзівілаў, які налічвае больш чым 26 тысяч адзінак захоўвання. Гэта цэлая гісторыя Беларусі, якая закранае літаральна ўсе бакі жыцця нашай Бацькаўшчыны на працягу доўгага часу — і палітыку, і эканоміку, і культуру, і ахову здароўя...

Радзівілаўскі фонд, на жаль, у нас не ўвесь. Частка яго захоўваецца ў Варшаўскім архіве старажытных актавых кніг, частка — у Літве і на Украіне. Ставіцца пытанне аб стварэнні хоць бы вопісу ўсіх фондаў князёў Радзівілаў, згаданага мною ўжо былога Нясвіжскага архіва.

**— І ўсё ж — хто ваш галоўны і найбольш шматлікі кліент, Ала Купрыянаўна?**

— Гэта, вядома ж, перш-наперш навукоўцы, выкладчыкі ВНУ, тэхнікумаў і школ, краязнаўцы, студэнты і навучэнцы. Доступ у чытальную залу свабодны кожнаму: прыходзь і працуй. З'явіўся ў нас, дарэчы, і новы кантынгент кліентаў — студэнты нядаўна створанага аддзялення архівазнаўства гістфака БДУ.

Само сабою, архіў — не бібліятэка, і наша чытальная зала — гэта не звычная для ўсіх бібліятэчная "чыталка". Па-першае, яна не беспамерная. Таму ў нас існуе пэўная чарговасць для наведвальнікаў, асабліва для тых, хто зацікаўлены ў росшуках сваёй радаслоўнай. Мы вымушаны гэта рабіць і з тае прычыны, што аказанне той ці іншай паслугі кліенту вымагае ад супрацоўнікаў архіва немалой і карпатлівай падрыхтоўкі.

**— Гэтым жа не абмяжоўваецца клопат вашых супрацоўнікаў?**

— Вядома ж, не! Гэта толькі невялікая частка іхніх клопатаў. Архіўныя работнікі, хай гэта будзе вядома чытачам штотыднёвіка, зусім не так званыя "архіўныя пацукі". Гэта найперш людзі творчай працы. З 72 чалавек, што складаюць наш калектыў, 50 — навуковыя супрацоўнікі. Зарплаты ў нас невялікія, але мы любім сваю працу і не здраджваем ёй, хоць энтузіязм сёння і не ў пашане. Акрамя выканання службовых абавязкаў, мы рыхтуем матэрыялы для кніг "Памяці", па гісторыі паасобных устаноў, арганізацый, прадпрыемстваў, пішам артыкулы, рыхтуем да выдання кнігі Літоўскай метрыкі. Усё гэта дзеля таго, каб людзі ведалі сваю, нашу гісторыю, бо, як вядома, без мінулага не можа быць будучыні.

У нас працуюць аддзелы забеспячэння захаванасці дакументаў, інфармацыйна-пошукавых сістэм, аддзел выкарыстання і публікацый дакументаў, аддзел старажытных актаў, які займаецца распрацоўкай актавых кніг, і нядаўна створаны аддзел аўтаматызаваных тэхналогій. Час камп'ютэрызацыі не абмінуў і нас, і сёння мы актыўна распрацоўваем праграмы па фондах, па ўліку дакументаў і запытаў па праграме "Наш радавод", пра якую мы ўжо гаварылі.

Працуюць у нас пераважна, як, дарэчы, і ў многіх іншых падобных установах, жанчыны, хоць ёсць і мужчыны, у тым ліку і маладыя хлопцы, якія любяць нашу Бацькаўшчыну, цікавяцца яе гісторыяй і заклапочаны яе будучыняй.

**— Ала Купрыянаўна, хацелася б даведацца сёе-тое пра тое, як зберагаюцца, захоўваюцца архіўныя дакументы.**

— У нас працуе Цэнтральная лабараторыя мікрафільміравання і рэстаўрацыі дакументаў нацыянальнага архіўнага фонду. Шляхам мікрафільміравання ствараецца страхавы фонд архіўных дакументаў. Ён захоўваецца ў Дзяржынску, гэта так званы архіў кіна- і фотадакументаў. А лабараторыя займаецца яшчэ і пераплётам, рэстаўрацыяй, дэзінфекцыяй дакументаў. Дробны рамонт іх робяць супрацоўнікі аддзела забеспячэння захаванасці фондаў.

У адпаведнасці з асноўнымі правіламі работы ў архівах доступ у сховішча маюць толькі супрацоўнікі архіва. Сістэма ўліку і захаванасці дакументаў адладжана, нам думаецца, досыць дасканала. Кожны супрацоўнік архіва адказвае за пэўны від працы, за пэўнае сховішча. І Бог нас ратуе ад тых ці іншых страт — ну хоць бы ад банальных крадзяжоў. Для нас гэта катэгарычна супрацьпаказана, бо кожная страта ў нашай справе — незваротная. Цяпер гэтаму спрыяе і дапамагае нам камп'ютэрызацыя — у праграмы забеспячэння захаванасці ўнесены ўсе наяўныя фонды, іх вопісы і ўсе змены, якія іх тычацца. Карацей кажучы, тэхнічныя магчымасці дазваляюць нам сёння выходзіць на новыя ўзроўні архіўных тэхналогій у справе захавання і зберажэння дакументаў...

Я падзякавала гаспадыні гэтых бясцэнных скарбаў за цікавы і змястоўны аповед, яшчэ раз павіншавала сваю суразмоўніцу з юбілеем Нацыянальнага гістарычнага архіва краіны, пажадала ёй і яе калежанкам і калегам здароўя, шчасця і ўсялякіх жыццёвых і творчых поспехаў. Сціплая, знешне непрыкметная праца іх мае, аказваецца, зусім немалое значэнне. І маю на ўвазе не толькі згаданыя і незгаданыя прыклады практычнага, так бы мовіць, прыкладнога выкарыстання архіўных звестак. У архіве прачытала я словы рускага пісьменніка і гісторыка XIX стагоддзя М. Пагодзіна, якія нечакана запалі ў душу. Вось гэтыя словы: "Сховішчы пісьмовых і гістарычных помнікаў складаюць неабходную патрэбнасць больш ці менш адукаванага народа. Яны ўвекавечваюць самае для яго дарагое — сведчанні пра мінулае, яго гістарычнае жыццё і служаць праўдзівымі крыніцамі, да якіх звяртаюцца як дзяржаўны дзеяч, так і навуковец, даследчык даўніны". Мы, беларусы, маем такое сховішча вось ужо 60 гадоў. Дык, значыць, з поўным правам можам залічыць сябе да народа адукаванага, асвечанага. А гэта ўжо сёе-тое ды значыць.

**Марыя МІХАЙЛАВА**

*Актавая кніга Драгічынскага земскага суда за 1416 год (на лацінскай мове).*

*Пацвярджальны прывілей князёў Кур'ятовічаў ад 20 чэрвеня 1391 года (пергамент).*

АВОХЦІ МНЕ

# "Шчыра кажучы — не ў захапленні..."

***Калісьці мне даводзілася ўдзельнічаць ва ўсесаюзных семінарах па драматургіі. Пісаць п'есы свае яны, безумоўна, не вучаць (адчуванне сцэны, як грошы, — ці ёсць, ці няма), затое вучаць аналізаваць чужыя. Дайце веры: ад п'ес, якія абышлі ўсе тэатры СССР, востраязыкія маскоўскія хлопчыкі не пакідалі каменя на камені! Але ніякі амбіцыйны пачатковец, ніякі сапсаваны славаю драматург не зраўняецца па часці крытыкі з асам рэжысуры.***
***І такая вось гіпатэтычная сітуацыя мне ўявілася: сучасны майстар сцэны прачытаў п'есу невядомага аўтара з прозвішчам... ну, скажам, Чэхаў. Я не маю, вядома ж, намеру прынізіць класіку.***
***(На тое яна і класіка, каб быць вышэй). Ды вельмі ўжо вялікай была спакуса змадэляваць ніжэйпрыведзены дыялог...***

РЭЖЫСЁР. Прачытаў я вашу п'есу. (*Пацірае лоб).* Шчыра кажучы — не ў захапленні. Адчуваецца, што вы пачатковец у драматургіі. Я не памыляюся?

АЎТАР. Ну, як вам сказаць...

РЭЖЫСЁР. Што б вы ні сказалі, а п'еса гаворыць сама за сябе. Пачаткоўца пазнаць не цяжка. Вам хочацца з першых радкоў расказаць пра ўсё і адразу. Іначай кажучы — разжаваць ды ў рот пакласці. Возьмем да прыкладу вашага героя па імені... *(гартае старонкі)* Трэплеў. Прозвішча ў яго невыпадковае. Красамоўнае нават. Мабыць, яно ад слова "трапацца". Гэты герой з першага маналога выдае нам поўную характарыстыку сваёй маці, актрысы Аркадзінай: таленавітая, але раўнівая да іншых, скупая і г. д. Мы тут жа даведаемся пра сацыяльны статус героя, пра яго прыніжанае становішча ў сям'і, пра самапачуванне, адносіны да маці, пра погляды на мастацтва... І гэтак далей, і гэтак далей. Вы штосьці хацелі сказаць? *(Паўза).* Тое самае і з белетрыстам Трыгорыным. Не паспеўён з'явіцца ў полі зроку, як пра яго нам дэталёва распавядаюць. Як быццам мы самі не зразумеем за 4 дзеі, што гэта за штучка.

АЎТАР. Гледача ж неабходна ўвесці ў курс падзей.

РЭЖЫСЁР. А як размаўляюць вашы героі? *(Чытае).* "Играть будет Заречная, пьеса сочинения Константина Гавриловича. Они влюблены друг в друга, и сегодня их души сольются в стремлении дать один и тот же художественный образ". Хіба нармальны чалавек, хай сабе і настаўнік, можа так вычварна выказвацца — "сольются в стремлении"? Ну чаго вы так панурыліся? Вам трэба праўда ці кампліменты?

АЎТАР *(праціраючы акуляры).* Ведаеце... я ўспрымаў па-іншаму. Я пішу так, як адчуваю.

РЭЖЫСЁР. Тлумачыць свае творы, дарагі мой, — няўдзячны занятак. Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што пры ўсіх недахопах у вашай п'есе нешта ёсць. Штосьці няўлоўнае, можа, нават паэтычнае. І павароты ёсць цікавыя. Мне, напрыклад, спадабаўся такі момант: калі застрэліўся гэты самы Трэплеў, то доктар — Дорн, здаецца, — каб не напалохаць яго маці, схлусіў: маўляў, у паходнай аптэчцы склянка трэснула... Дарэчы, а чаму ён застрэліўся не тады, калі каханая дзяўчына кінулася ў Маскву следам за славутасцю, а праз два гады — калі ўсё ведаў пра яе, калі пабачыўся, калі пераканаўся, што яна "знайшла сваю дарогу", калі сам нарэшце сцвердзіўся як творчая асоба?

АЎТАР. Выбачайце... Вы няўважліва чыталі. Страляўся ён і раней, толькі няўдала.

РЭЖЫСЁР. А-а, "в минуту безумного отчаяния"... Сапраўды. А па чым мы павінны бачыць, што герою цяжка, што ён, можна сказаць, на мяжы адчаю?

АЎТАР. Тонкія душэўныя рухі і знешне выўляюцца тонка. Большасць людзей вакол пакутуе, але дзе вы на вуліцы бачылі, каб яны кідаліся і хапаліся за галаву?

РЭЖЫСЁР *(разглядае аўтара, як быццам толькі цяпер яго ўбачыў).* А вы сапраўды паэт. *(Пацірае лоб, думае.)* Але ў вашым творы з такім жа поспехам маглі страляцца і іншыя. У вас цэлая чарада неўзаемных любовей. Бедны настаўнік кахае Машу, Маша — Канстанціна, Канстанцін — Ніну, Ніна ўцюрылася ў прыезджага лавеласа. Тым не менш вы не прыдумалі ніводнага жэста ці душэўнага руху, якія б выдавалі сапраўдныя пачуцці герояў. Усё ў словах! "Ах, как я страдаю...", "Я люблю его даже сильнее, чем прежде", "Разлюбить вас я не в силах" і гэтак далей. Мы ж з вамі не хлопчыкі. Мы ведаем, **што** такое каханне і **як** яно выяўляецца. Праўда? Ды пакіньце ў спакоі свае акуляры. Дзірку пратрэце.

АЎТАР *(кашляе).* Публіка сапсавана таннымі эфектамі.

РЭЖЫСЁР. ...і вы за гэта вырашылі пакараць яе цягамоцінай? Нудота літаральна разліта ў паветры. Дробязі, побыт...

АЎТАР. Жыццё — не толькі вяршыні і бездані, яно ў штодзённых радасцях і штодзённых турботах. А гэта і ёсць побыт.

РЭЖЫСЁР. Я тут яшчэ адзін момант не зразумеў: чамусьці ледзьве не ўсе вашы героі мараць пра пісьменніцкую славу. Не самая распаўсюджаная, здавалася б, прафесія... Вам, пэўна, цяжка было прабіцца ў літаратуру...

АЎТАР. Дазвольце! Я не разумею...

РЭЖЫСЁР. А гэтыя дзіўныя разважанні наконт новых формаў? Узялі б і стварылі для нас узоры такіх формаў, замест таго каб рыторыкай займацца. Увогуле, кажучы словамі аднаго з вашых герояў, у вас не дзеянне, а адна чытка. Давайце паглядзім, што па сутнасці адбываецца ў п'есе. Размаўляюць, потым ладзяць спектакль. Зарэчная знаёміцца з Трыгорыным. Трэплеў забівае чайку. Пасля зноў бясконцыя размовы — пра пісьменніцтва ў асноўным. Далібог, манія якаясь... Трэплеў робіць замах на жыццё (не то ад рэўнасці, не то пісаць больш не можа, не то маці грошай не дае). Дарэчы, наконт грошай... Вы што, на самай справе ўпэўнены, што адзінокая актрыса павінна ўтрымліваць не толькі хворага брата, але і дваццаціпяцігадовага бэйбуса? Добра, пойдзем далей. Трыгорын прызнаецца Аркадзінай у сваім новым захапленні, доўга развітваецца з Нінай. Тое, што адбылося з ёю за два гады (пераскок ад 3-яй дзеі да 4-ай), усё ідзе пераказам, скорагаворкай. Уся 4-ая дзея — нейкі расцягнуты эпілог. Самае цікавае для гледача — раман цнатлівай паненкі і прадстаўніка сталічнай багемы — вы апусцілі. Рэжысёрам давядзецца выдумляць за вас (калі возьмуцца, вядома, за пастаноўку). Трыгорына выпусцяць на сцэну ў трусах, Зарэчную ў негліжэ... Абдымкі, пацалункі і ўсё такое...

*Аўтар кашляе і выцірае хусцінкай лоб.*

РЭЖЫСЁР. А што больш за ўсё мяне раздражняе ў вашым творы, дык гэта вобраз галоўнай гераіні, Ніны Зарэчнай. Калі Трэплеў забівае ні ў чым не вінаватую птушку, Трыгорын як сапраўдны прафесіянал прыдумвае сюжэт "для невялічкага апавядання": "на берегу озера с детства живет молодая девушка /.../ любит озеро, как чайка, и счастлива, и свободна, как чайка. Но случайно пришел человек, увидел и погубил от нечего делать, как вот эту чайку". Гэтая няшчасная чайка ўспамінаецца ў творы разоў дзесяць, а к фіналу фігуруе ўжо ў якасці пудзіла. Зарэчная, як заведзеная, паўтарае, што яна чайка, і нават пісьмы да Трыгорына так падпісвае. Між тым чытач (і глядач) — не дурань, ён даўно ўжо ўсё зразумеў! Аўтарская ідэя тырчыць, як цвік у зэдліку, і муляе ўсім нам... даруйце... Паверце, мяне асабіста такая гераіня мала цікавіць. Няма руху, няма развіцця характару. Яна аднамерная, ваша Ніна. У яе словах і паводзінах многа штучнасці, вымучанасці. Як, дарэчы, і ў вашых рэмарках: "Нина кладет ему голову на грудь и сдержанно рыдает". Вы ўвогуле законы драматургічнага жанру ведаеце?

АЎТАР. Мне важней было перадаць дух часу, само жыццё, чым захаваць законы драматургіі.

РЭЖЫСЁР. Жыццё, даражэнькі, можна перадаць і раманам!

АЎТАР. Я сам бачу, што дзеяння мала. Але ж вы не станеце адмаўляць, што ёсць характары, ёсць настрой, ёсць адчуванне застыласці, бессэнсоўнасці існавання...

РЭЖЫСЁР *(разгублена).* Чакайце... Выходзіць, што сцэнічны твор з цягучай, змрочнай атмасферай, з камплексуючымі героямі вы свядома назвалі **КАМЕДЫЯЙ**? *(Доўгая пауза.)* У вас своеасаблівае пачуццё гумару. Жанравае вызначэнне — адзінае, што можа рассмяшыць у вашай п'есе. Калі вы лірык у душы, калі вас перапаўняе пачуццё самоты і марнасці жыцця, то драматургія — не лепшы спосаб перадачы такога светаадчування. Пішыце вершы. У крайнім выпадку — навелы. А калі вы праб'яцеся і атрымаеце прызнанне як празаік, тады паставяць і вашы недасканалыя п'есы. Мала таго: у іх убачаць тое, чаго там ніколі не было, укладуць у вашы зацягнутыя маналогі столькі сэнсу і падтэксту, што вы самі будзеце дзівіцца. Дарагі мой *(давяральна бярэ за локаць)*, прыслухайцеся да маёй таварыскай парады: ніколі, ніколі не пішыце болей для сцэны!

*Аўтар рашуча адбірае з рук рэжысёра свой рукапіс, нервова складвае старонкі і выходзіць.*

РЭЖЫСЁР *(услед).* Акуляры! Вы забыліся на стале акуляры!

**Дыялог уявіла**
**Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

ВЕРНІСАЖ

Малюнкі А. Гурскага


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4282
Нумар падпісаны ў друк 4.6.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 3421/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12